PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (2005) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 16 КАСТРЫЧНІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

АДА ЧАЧУГА

## СУСТРЭЧА З ВАЛКАВЫЦКІМ

*Меланхолія — самотны танец*
*познай восенню.*
*Барыс Руско*

Колькі разоў мне карцела сустрэцца з Юркам Валкавыцкім у іхнай белавежскай хатцы, пабачыць, як жывецца яму цяпер, калі ён ужо на пенсіі і ў Беласток з'язджае толькі на найхаладнейшыя зімовыя месяцы... Як прыстасаваўся ён да новых варункаў — не, не таму, што да вясковых, барані Божа: Валкавыцкі заўсёды быў вельмі скромны і многага для сябе ніколі не вымагаў. Нуртавала мяне, як ён, чалавек, які стварыў „Ніву" і аддаў ёй без рэшты 32 гады жыцця, як ён можа жыць без гэтага свайго дзіцяці... Чым запоўніў час, які ў яго настрой, куды ходзіць, з кім сустракаецца...

І вось мой самаход спыніўся на вуліцы Маставой 29 у Белавежы. Людзі называюць гэта месца Барком. Я яшчэ мацавалася з брамкай, калі адчыніліся дзверы хаты і хуткім крокам, з прамяністай усмешкай на твары выйшаў мне насустрач Валкавыцкі.

І адразу павёў мяне паказваць сваю „гаспадарку".

* * *

Хатку на вёсцы „на старыя гады" Вера пачала шукаць даволі даўно, прынамсі гадоў дзесяць таму. Усе ў рэдакцыі абмяркоўвалі чарговыя хаткі-кандыдаткі ў самых розных вёсках, якія вынаходзіла Вера. Аднак жа спынілася на хаце ў роднай Валкавыцкаму Белавежы.

А ён заракаўся: „Нага мая там не ступіць! Калі не мае што рабіць з грашыма, няхай выкідае!"

І ўсё ж такі хатка, якую Вера прыдбала шляхам многіх адрачэнняў і адымання ад рота (журналісты ніколі не жылі, як буржуа), стала найбольш яго, Юркавым прыстанішчам.

* * *

Чысценькі панадворак, калісь пусты, а сёння навокал самыя розныя пасадкі. Гаспадар тлумачыць мне, што і дзе тут расце. Во, пігву пасадзіў, аронію. А тут яблыні, грушы. Ага, і яшчэ пакажу табе канадскія чорныя ягады — як куст растуць!

— А ружы хто садзіў? — пытаю.

— Таксама я, — адказвае. — Хадзі, пакажу табе абляпіху. Памятаеш, калісь у „Ніве" прапагандаваў яе доктар Паскробка?! Я прывёз яе на ровары з гадавальніка ў Чарлёнцы, гэта дзесяць кіламетраў.

— Як у цябе тут прыемна. Як чысценька, акуратна!

— Тры гады толькі гэтым і займаліся, а трэба ж яшчэ плот гарадзіць. Хатку ўсё яшчэ робім, а ўжо пяць гадоў, як яе купілі.

І сапраўды, хатка невялікая, але відаць, што ўложана ў яе сэрца. Калі купілялі, была старая і занядбаная. Перарабілі, направілі, аднавілі. Паставілі новую печку, абабілі сцены, зрабілі салідныя ўваходныя дзверы, камору прыстасавалі на ўтульны пакойчык для ўнука Эрніка, уставіўшы туды стандартнае акенца. Прыгожа памалявалі хатку цёмна- і светла-карычневым колерам, а вокны — белыя.



*Юрка Валкавыцкі (справа) са сваім сябрам Барысом Руско.*

Сядзім у хатцы. На кухні таксама чысценька, як і ў пакоі. Частуюся яблычкам, смакую абляпіху. З выгляду — як рабіна, толькі на смак не горкая, а далікатна кіславатая, араматная.

— У ёй цэлы комплекс вітамінаў: *A, C, B, B1, B2, BC, E* і многа іншых біялагічна актыўных рэчываў, неабходных для чалавека, — кажа Валкавыцкі.

— А ад чаго яна памагае?

— Зараз я табе прачытаю: пры сонечным ударах, атэрасклерозе, пры некаторых хваробах сэрца, дзеля нармалізацыі ціску, супроць пухліны, пры няправільным абмене рэчываў, пры рэўматызме (прыпаркі з лісця абляпіхі), пры ранах, апёках, язве страўніка. Універсальны лек ад усіх хвароб! У нас, на жаль, людзі не збіраюць пладоў абляпіхі, лічаць яе дэ-

*Працяг на стар. 5*

ГАННА КАНДРАЦЮК

## УСПАМІНЫ ПРА БЕЖАНСТВА

У **Залуках** бежанства пачалося ў жніўні 1915 года. Успамінае **Марыя Лісоўская**, 93-гадовая жыхарка гэтай вёскі:

„У вёску з'явіўся тады конны атрад казакаў. Крычалі на нас і махалі шашкамі. „Удаляйтесь, удаляйтесь, германец идёт!" — гарланілі яны. У вёсцы ўспыхнула завіруха. Ужо і раней гаварылася ў нас, што выселяць усю вёску, бо тут назначана франтавая лінія. Людзі, аднак, да канца мелі надзею, што нешта зменіцца. Праўда, у наваколлі хадзілі жахлівыя чуткі пра немцаў, якія жывўцом скуру з людзей дзяруць. Ніхто тады, папраўдзе, не ведаў, які гэта народ. Таксама трэба было слухаць начальства. Пакідалі людзі дабытак, забудовы, абсаджаныя палі, усё дабро, што за век накапілі. Сем'і былі тады вялікія, і толькі людзі змяшчаліся на фурманцы. З Залук у бежанства падаліся ўсе. Толькі што заехалі мы пад Гарадок, а ўжо наша вёска гарэла.

Далей паехалі мы ў Менск. Там трэба было вырашыць, дзе хочам перасяляцца. Наша сям'я выбрала Самарскую губерню. Разам з намі паехалі яшчэ пяць сем'яў. Людзі з Залук раз'ехаліся па ўсёй Расеі. Хто на Украіну, хто на Сібір, а хто на Смаленшчыну. У Менску прадалі мы каня з фурманкай, селі ў цягнік і паехалі ў невядомы свет. На месца дабіліся аж на Пакрову. Высадзілі нас за Волгай, у сяле Кінель-Чэркасы. За намі прыехалі сяляне на фурманках. Адразу атрымалі мы кватарунак. Жылі мы ў асобнай хаце, бо ў гаспадара, які нас прыняў, былі аж дзве хаты. Знайшлася і праца. Хто хацеў, ішоў працаваць у гаспадара.

Ах, якія там людзі былі добрыя! Такіх людзей, як расіякі то і ўспамінаць прыемна. Як жа яны нас шкадавалі, як перажывалі з-за нашага гора: „А страдающий вы народ, а беженцы вы несчастные!" — паўтаралі ўвесь час. Ведаеце, як толькі ўвайшлі мы ў сяло, да нас падбеглі жанчыны з плачам. Адна маладзіца зняла з сябе дарагую хустку і атуліла мае плечы. Людзі пананосілі нам усяго, што толькі да жыцця трэба.

Багата там людзі жылі. Гаспадаркі яны мелі добрыя, зямля сама, без угнаенняў, радзіла. Там нават не жыта сеялі, а пшаніцу. Тры разы ў тыдзень булкі пшанічныя пяклі.

Варылі ўвесь час расіякі чай у самавары і пілі яго „в прикуску" — цукар асобна ў рот клалі, чайком горкім папівалі. Хто б у хату не зайшоў, таго заўсёды запрашалі: „Садитесь к нам чайку попить". Водкі яны не пілі. Нідзе так не было, як цяпер стала. Тады п'яных ніхто не бачыў. Тамашнія людзі мелі багата дабытку, а курэй то не злічыць. У кожнага гаспадара было збожжа ў запасе. Трымалі яго ў высокіх свірнах (амбарах), бо зімою снег засыпаў усе платы і нізкія будынкі. Калі навесну снег раставаў, то возера плыло. Маразы даходзілі нават да 50 градусаў. У сяле былі 3 цэрквы, базар, пажарнае дэпо, школа. Два мае браты хадзілі ў школу. Да старэйшага расіякі прыходзілі за дапамогай у навуцы.

Базар у нашым сяле быў вядомы на ўсю акругу. Купцы да нас аж з саракакіламетровай адлегласці прыязджалі. А і ў нас было за што купіць, бо гаспадар за працу плаціў, а яду даваў дарма.

У сяле людзі шанавалі рэлігію, народ быў вельмі аддадзены царкве. Там, як ішлося да споведзі, то трэба было пачаць рыхтавацца ад серады. У пятніцу спавядаліся, у суботу — прычасце. У нядзелю таксама трэба было быць у царкве, бо гаварылі: "прычасць з нядзелі ўкрадзена".

Па-руску гаварыць мы не ўмелі. У нас у Залуках перад бежанствам на прывітанне гаварылі „нех бэндзе пахвалёны", а там у кожную пару інакш здароўкаліся. Але ж руская мова не нямецкая, хутка мы яе навучыліся. Нават, калі прыехалі на бацькаўшчыну, то цяжка было прывыкаць да польскай мовы. Між сабой мы гаварылі па-нашаму.

У час рэвалюцыі ў сяле было спакойна. Толькі збожжа гаспадарам з амбараў пазабіралі.

Ужо як мы вярталіся (1920—21 гады) пачаўся страшэнны голад. Зямля высахла, палопалася. Засуха была такая, што калі ў шчыліну сунуць палку, то яна ў зямлі і хавалася. Не было яды. Бывала, разатрэш сухі лапух, змяшаеш са жменяй мукі і праснак такі выходзіў.

Хацелася ў сваю старонку, хаця там і пясок, а ўсё ж бацькаўшчына. Назад мы ехалі на фурманках. Трэба было пераадолець 1 400 кіламетраў. У палове дарогі здарылася гора. Людзі пачалі

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Палітыка, якая вяла да аб'яднання грашовых сістэм, зрабіла вельмі негатыўны імідж для Беларусі за мяжой. На Захадзе бачылі, што практычная рэалізацыя таго пагаднення ў тым выглядзе вяла да інкарпарацыі Беларусі ў Расію. Сёння мы ўжо не разлічваем на тое, што Расія будзе штучна нам дапамагаць і нас фінансаваць,* — сказаў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько.

*(Звязда, 7.09.1994 г.)*

* * *

*Władze PRL wraz z działaczami Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku przez ponad trzydzieści lat usiłowały wmówić Ukraińcom, że są oni Białorusinami... Na razie strona ukraińska wykazuje wiele cierpliwości i wyrozumiałości, ale jak długo jeszcze?.. Nadal trwają eksperymenty związane z zatruciem jej etnosu kulturowego i wynarodowienia na rzecz Polaków czy Białorusinów. Stan taki jest nie do utrzymania na dłuższą metę...*

*Działacze białoruscy powinni zastanowić się, czy nie przywrócić nauczania języka białoruskiego w Michałowie. Najpoważniejszym błędem było zaniedbanie szansy na rozwój tego szkolnictwa na całym etnicznie białoruskim obszarze Białostocczyzny (poczynając od Michałowa i Zabłudowa na południu, a kończąc na Suchowoli i Dąbrowie Białostockiej na północy), a także na Suwalszczyźnie, np. Lipsk, Krasnoborki; od Białowieży po Suraż, Choroszcz, Knyszyn, Augustów. Gros Białorusinów na Białostocczyźnie i Suwalszczyźnie wyznaje katolicyzm.*

*Ukraińcy są wyłącznie prawosławni.*

*Wydaje mi się, że język białoruski powinien być przywrócony nie tylko w Liceum w Michałowie ale także wprowadzony do liceów w Białymstoku, Sokółce, Dąbrowie Białostockiej, a może też do Liceum Ogólnokształcącego im. Jerzego Popiełuszki w Suchowoli. Jeżeli chodzi o Ukraińców, to ich język ojczysty powinien być wykładany w Siemiatyczach i Drohiczynie,* — піша дзеяч Саюза ўкраінцаў Падляшша Ежы Трачук.

*(Wiadomości Kulturalne, nr 15)*

Трачук вельмі ласкавы для беларусаў, бо аддае нам Сувальшчыну і палову Мазураў. Сянкевічоўскі Заглоба пры ім — гэта маленькі жартаўнік і да таго ж фіктыўны персанаж. Хаця Трачук не піша, на якой мове павінны навучацца дзеткі ў Пярэмышлі, Белай-Падляшскай ці Холме, але здагадваемся, што, пэўна, на кітайскай.

* * *

*Ze zdumieniem obejrzałem film „Stalingrad" w polskiej telewizji. Pokazano tam, jakimi męczennikami byli żołnierze niemieccy, którzy zabłąkali się dwa tysiące kilometrów w głąb Rosji. 22 czerwca 1941 r. trzy i pół miliona obywateli niemieckich wybrało się do ZSRR i ten skurwysyn Józef kazał do nich strzelać. Historia zaczyna tańczyć walca*, — піша Зыгмунт Калужынскі.

*(Polityka, nr 38)*

* * *

*Występowanie w polskiej przyrodzie uzbrojonego pijanego policjanta to zjawisko zupełnie normalne. Komendant Główny wydał zarządzenie nakazujące zabieranie broni do domu, gdyż złodzieje włamują się do komisariatów i kradną.*

*(Gazeta Współczesna, nr 179)*

А можа б так сарганізаваць нейкія грамадскія дзяжурствы і ахоўваць камісарыяты ад злодзеяў?

* * *

*Przyrost naturalny w Polsce w okresie stanu wojennego kształtował się na poziomie krajów Trzeciego Świata. Zapoczątkowany pięć lat temu „powrót do Europy" poskutkował europeizacją również w sferze obyczajowości i modelu rodziny. Polki nie chcą pełnić przydzielonej im roli maszynek do rodzenia. Chrztów byłoby więcej, a pogrzebów mniej, gdyby nie nasze nowe europejskie przodownictwo — w statystykach umieralności. W ciągu ostatnich 5 lat średnia długość życia w Polsce obniżyła się o ponad rok, co jest ewenementem w skali światowej.*

*(Wprost, nr 37)*

* * *

*Tematem dramatu „Prorok Ilja" jest autentyczne wydarzenie sprzed wojny. Dramat Słobodzianka jest wybitnym dziełem na miarę „Dziadów" Mickiewicza.*

*(Rzeczpospolita, nr 210)*

* * *

*Dlaczego popieramy interwencję w Haiti? Po pierwsze — solidarność. Stany Zjednoczone solidaryzowały się z Polską, kiedy ta walczyła z sowieckim Imperium Zła. Dzisiaj Imperium Zła to Haiti. Waszyngton może liczyć na naszą solidarność.*

*Po drugie — interes. Jaki Polska ma interes, żeby zaprowadzić demokrację na drugim końcu świata? Odpowiadamy: wolność jest niepodzielna. Nie będziemy wolni, dopóki Haiti pozostaje w niewoli. Co jest dobre dla Haiti, to jest dobre dla Polski.*

*Po trzecie — sojusze. Zgodnie z zasadą „szukaj przyjaciół blisko, a wrogów daleko" naszym sąsiadem, którego los szczególnie leży nam na sercu, staje się Haiti, a najbliższym naszym sojusznikiem są Stany Zjednoczone Ameryki Północnej.*

*(Polityka, nr 39)*

* * *

*Uchwalona przez Sejm „Ustawa o ochronie tajemnicy państwowej i służbowej" zawiera propozycję, aby dziennikarz swoje informacje przekazywał prokuratorowi. Ustawa nie tylko neguje podstawowe posłanie, jakim powienien kierować się przedstawiciel tego zawodu, cechuje ją wyjątkowa arogancja, wręcz propaguje zasadę „zróbmy z pismaka tajniaka".*

*(Gazeta Współczesna, nr 184)*

Вораг не спіць, дык чаму ж журналісты не могуць уключыцца ў агульнае з ім змаганне. Трэба толькі, каб улада яшчэ ясна сказала — хто ёсць вораг і дзе яго шукаць. Нешта знаёмае гэта, і як бы ўжо калісь такое было. А можа нам толькі так здаецца?

* * *

*Дэ Голь, як вядома, не герой А. Лукашэнкі, прэзыдэнту падабаецца Фэлікс Дзяржыньскі. Французскі гэнэрал да спадобы З. Пазьняку.*

*(Свабода, н-р 32)*

Кожны мае сваіх герояў.

* * *

*Każdy Japończyk na seks wydaje rocznie 500 dolarów, na drugim miejscu są Amerykanie i Duńczycy przeznaczający na ten cel 80—100 USD rocznie. Krajem o największym udziale zysków z usług seksualnych w dochodzie narodowym jest Tajlandia — 900 tys. prostytutek. Najdynamiczniej rozwijającym się rynkiem usług seksualnych są kraje postkomunistyczne.*

*W USA działają akademie sadomasochizmu i onanizmu, gdzie nadaje się tytuły profesorskie osobom prowadzącym praktyczne zajęcia masturbacji (miesięczne za kurs wynosi kilkaset dolarów).*

*(Wprost, nr 37)*

Цяпер вядома, чаму выстрайваюцца такія чэргі каля амерыканскіх консульстваў за візамі ва ўсіх постсацыялістычных краінах.

# З мінулага тыдня

**Эканамічны камітэт Рады Міністраў** адобрыў праект „урадавай праграмы развіцця гаспадарчага супрацоўніцтва з усходнімі краінамі". Мэтай праграмы, якая будзе выконвацца з 1997 года, будзе пераадольванне застою і спаду гаспадарчага і гандлёвага супрацоўніцтва з усходнімі суседзямі, якія пачаліся пасля 1990 года. Праграма датычыць 15 краін — былых савецкіх рэспублік. Прадугледжвае яна, што прыярытэтам стане супрацоўніцтва з Беларуссю, Эстоніяй, Расейскай Федэрацыяй, Казахстанам, Літвой, Латвіяй, Туркменіяй, Украінай і Узбекістанам. Асаблівую падтрымку атрымае экспарт інвестыцыйнага абсталявання, сельскагаспадарчых і харчовых прадуктаў, а таксама некаторых спажывецка-прамысловых тавараў.

**У Крыніцы-Гурскай адбыўся эканамічны форум „Польшча — Усход"**, прысвечаны замацоўванню гаспадарчых кантактаў з краінамі СНД і іх уплыву на станаўленне рыначнай эканомікі ў гэтых дзяржавах. У форуме ўдзельнічалі ўрадавыя і прадпрымальніцкія дэлегацыі з Расеі, Украіны і Беларусі, а таксама шэфы польскіх гаспадарчых ведамстваў, міністр замежных спраў **Анджэй Аляхоўскі** і віцэ-прэм'ер **Гжэгаж Калодка** ў суправаджэнні шматлікай дэлегацыі краёвых бізнесменаў.

**У Гродне** адбыліся ўрачыстасці ў гонар 100 гадавіны з дня нараджэння **св. Максіміліяна Кольбе**, які ў 20-х гадах жыў у гэтым горадзе. У святкаваннях прымаў удзел мітрапаліт Менскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі **Філарэт**. „Пакутнік XX стагоддзя карыстаецца пашанай не толькі вернікаў Каталіцкага касцёла, але і праваслаўных", — паінфармавала мясцовае радыёвяшчанне.

З 1 кастрычніка абавязкі **беластоцкага ваяводы выконвае Анджэй Гаеўскі**. На вызваленую ім пасаду **віцэ-ваяводы назначаны Гжэгаж Рыкоўскі**, які да гэтай пары працаваў дырэктарам Аддзела грамадзянскіх спраў Ваяводскай управы.

**Беластоцкі пасол Кшыштоф Вольфрам** (Унія вольнасці) накіраваў прэм'ер-міністру дэпутацкі запыт у справе кантрабанды дзікіх жывёл з Усходу. На думку парламентарыя, гранічныя службы талерантна стаўяцца да ветэрынарыйных дакументаў, якія за мяжой можна купіць за 10 долараў. Многае паказвае на тое, што Польшча стала месцам пасрэдніцтва ў гандлі дзікай жывёлай паміж краінамі былога СССР і Захадам. Некаторыя віды жывёл, што перапраўляюцца кантрабандай цераз мяжу, занесены ў Чырвоную кнігу і гандаль імі строга забаронены.

**25 Полк сувязі пакінуў Беласток.** Перад расфармаваннем адбылося набажэнства ў гарнізонным касцёле і ўрачыстая лінейка, на якой чыталіся спецыяльныя загады. У вызваленых казармах памесціцца **18 Мотастралковая брыгада.**

**Радыё Беласток** 1 кастрычніка адзначала 42 гадавіну свайго ўзнікнення. З выпадку юбілею быў аб'яўлены Дзень Радыё Беласток, а жыхары горада маглі пазнаёміцца з працай радыёжурналістаў на месцы. Праўленне беластоцкага радыёвяшчання мае намер штогод працягваць гэтую традыцыю.

**650 дзяцей навучаецца літоўскай мове** ў школах Сувальскага ваяводства. Заняткі па роднай мове вядуцца ў Краснове, Краснагрудзе, Пуньску, Навінніках, Відугерах, Вайтакемях і Сувалках. У сталіцы ваяводства міжшкольная група з 17 дзяцей з усяго горада займаецца ў школе н-р 5. У Сэйнах сарганізаваць падобную групу не ўдалося.

**У Сэйнах** завяршылася трохдзённая сустрэча пад лозунгам „Ад Жэшава да Сэйнаў". Мерапрыемства, суарганізатарам якога выступіла **Брацтва праваслаўнай моладзі з Беластока**, ставіла за мэту інтэграцыю краін Усходу і Захаду.

**Кастрычнік** пачаўся з чарговага павышэння цэн. У гэтым месяцы падаражалі цёплая вада (30%), цэнтральнае ацяпленне (17%), тэлефонныя размовы, праязныя білеты на гарадскі транспарт у Беластоку, гарэлка (15%) і аўтамабілі „Фіат" краёвай вытворчасці (2%).

**Рэкеціры** не пакідаюць у спакоі турыстаў з Усходу. Група замаскіраваных мужчын напала ў гасцініцы „Бетон-Сталь" у Беластоку грамадзян Беларусі, пабіла іх і забрала ім грошы. Паліцыя падазравае ў злачынстве грамадзян былога СССР і вядзе вышук распазнаных на здымках бандытаў.

# Праз тыдзень у „Ніве"

- > Ці ў Гарадку ёсць беларусы? — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- > Культурнае жыццё Нараўкі.
- > Прыродазнаўчыя занатоўкі А. Гаўрылюка.
- > Успаміны Шызахрэна з любагорскай псіхушкі.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Антыкрызісная праграма

На XVI сесіі Вярхоўнага Савета прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка вынес на абмеркаванне праграму неадкладных мер па выхаду з эканамічнага крызісу, у якой намечаны асноўны накірунак рэфармавання эканомікі — сацыяльна арыентаваны рынак. Галоўны крытэрый прапанаванай праграмы — не дапусціць далейшага рэзкага зніжэння ўзроўню жыцця народа. На думку прэзідэнта, у выніку рэалізацыі праграмы спыніцца зніжэнне курсу беларускага рубля і будзе прыпынены абвальны спад вытворчасці.

## Тэрміновыя выбары

Спікер парламента Мечыслаў Грыб лічыць бессэнсоўнымі сёння размовы аб датэрміновых парламенцкіх выбарах. На падгатоўку выбараў, у тым ліку і тэхнічную, спатрэбіцца 3—4 месяцы. Калі ў кастрычніку Вярхоўны Савет стане вызначаць, калі праводзіць выбары, то ў любым выпадку гэта не можа здарыцца раней за люты. Згодна з канстытуцыяй новыя выбары павінны адбыцца ў сакавіку 1995 года. Няма тады ніякага сэнсу на месяц скарачаць паўнамоцтвы цяперашняга ВС. Аб адмове ад ідэі датэрміновых выбараў заявіў таксама Беларускі народны фронт. Паводле разлікаў БНФ, да вясны ўзровень жыцця пагоршыцца, а народ паспее расчаравацца ў прэзідэнце і тады БНФ пераможа на выбарах.

У парадак дня XVI сесіі ВС уключаны пункт аб вызначэнні даты новых парламенцкіх выбараў.

## Новыя беларускія рублі

Старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч пацвердзіў, што ў падвалах НБ захоўваюцца надрукаваныя грошы, т.зв. новыя беларускія рублі. Яны не маюць нічога супольнага з „зайчыкамі" — цяперашнімі разліковымі білетамі. Мяркуючы па ўсім, новы рубель з'явіцца ў кашальках грамадзян не раней, чым праз год і толькі пасля таго, як эканоміка рэспублікі выйдзе на ўзровень інфляцыі 7% у месяц. Ужо ў бліжэйшыя месяцы беларускі гандаль пяройдзе на ажыццяўленне плацяжоў толькі пры дапамозе нацыянальнай валюты, а ролю яе нейкі час выконваць будзе „зайчык".

## П'юць, але не айчынную

Ліхадзейку з наклейкай, як яшчэ называюць гарэлку, праклінае гандаль. Па крайняй меры ў Пінску, дзе было закуплена за банкаўскі крэдыт больш за чатыры тысячы скрынак „белай", што цяпер мёртвым грузам асела на складах базы. Народ лічыць за лепшае купляць спіртное на мясцовай таўкучцы. Тут карабейнікі з суседняй Валыні прапануюць паўлітэркі саракаградуснай па 3 тысячы рублёў і ніжэй, калі ў магазінах каштуе яна 5 тысяч. Тое ж самае адбываецца ў Лунінцы, Століне, Іванаве і нават у Брэсце.

## Чарговая фракцыя

„Водападзел сёння ляжыць не паміж камуністамі і дэмакратамі, не паміж правымі і левымі, а паміж стваральнікамі і разбуральнікамі", — заявіў народны дэпутат Анатоль Лябедзька, паведаміўшы аб стварэнні новай парламенцкай фракцыі „Грамадзянская згода". У яе ўвайшлі каля 30 народных дэпутатаў (м.ін. Васіль Даўгалёў і Дзмітрый Булахаў), якія маюць намер наладзіць канструктыўны дыялог паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі.

## Сустрэча ў вярхах

У рамках XLIX сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адбылася сустрэча міністра замежных спраў Уладзіміра Сянько з генеральным сакратаром ААН Бутрасам Галі. Былі закрануты пытанні расшырэння ўдзелу Беларусі ў эканамічных, сацыяльных і іншых напрамках дзейнасці ААН. Генеральны сакратар пацвердзіў сваю пазіцыю аб намеры супрацоўніцтва з Беларуссю з мэтай далейшага ажыццяўлення рэформаў і пераадалення ўсіх праблем пераходнага перыяду.

## Суседскі візіт

На 17—20 кастрычніка г.г. плануецца візіт міністра замежных спраў Польшчы Анджэя Аляхоўскага ў Менск. У ходзе візіту намечаны таксама сустрэчы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і з прадстаўнікамі польскай дыяспары.

## У падтрымку бізнесу

Мільён экю выдзеліла спецыяльная камісія Еўрапейскай Супольнасці на мэтавую акцыю, якую праводзіць Беларуская канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў па падрыхтоўцы новага кансультацыйнага савета ў галіне малога і сярэдняга бізнесу. Беларуская акадэмія прадпрымальніцтва і сацыяноміі, што працуе ў цесным супрацоўніцтве з БКПП і іншымі эканамічнымі саюзамі, рыхтуе 50 выкладчыкаў-кансультантаў.

## З прэм'ера на прэзідэнта

У кулуарах Вярхоўнага Савета былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч паведаміў, што пачаў выконваць абавязкі прэзідэнта Гандлёва-фінансавага саюза. Яго задача — садзейнічаць прамысловым прадпрыемствам Беларусі ва ўмацаванні іх эканамічнай сувязі з прадпрыемствамі іншых краін СНД і найперш Расеі, а таксама паскарэнне плацяжу і руху тавараў.

## Згарэў вагон

Глыбокай ноччу на чыгуначным вакзале ў Гродне з-за няспраўнасці электраабсталявання загарэўся вагон электрацягніка Гродна — Беласток, які належыць Польшчы. Ніхто з пасажыраў не пацярпеў, а сам вагон стаў непрыгодным.

# II Фестываль нацыянальных меншасцяў

Ёсць думкі, якія доўга лётаюць у паветры, пакуль нехта іх не зловіць. Да іх належыць ідэя правядзення фестывалю нацыянальных меншасцяў. Была калісь думка праводзіць яго ў Беластоку. Нешта падобнае, хаця абмежаванае толькі да маладзёжнай культуры, прабавалі рабіць студэнты-нацмены ў Варшаве. На канец думка ажыццявілася ў Гданьску, дзякуючы тамашнім дзеячам з Саюза ўкраінскай незалежнай моладзі і Фонду развіцця культуры „Кантакт".

Сёлета, ад пятніцы 29 верасня да нядзелі 2 кастрычніка, у прыморскім Трыгарадзе (як называюць Trójmiasto тутэйшыя беларусы), адбыўся другі ўжо Фестываль нацыянальных меншасцяў. Мерапрыемства, на якім я быў госцем, вельмі мне спадабалася, хаця давялося пачуць ад удзельнікаў і шмат крытычных выказванняў у бок арганізатараў. Дзеля апраўдання арганізатараў трэба сказаць, што яны мелі вялікія цяжкасці ў зборы патрэбных грошай. Калі нарэшце знайшоўся галоўны спонсар (Фонд імя Стэфана Баторыя), арганізатары пачалі дзейнічаць у вялікай паспешнасці, што прыкметна адбілася на выніках іхняй працы.

Як не глядзі, атрымалася шырокамаштабнае мерапрыемства: выстаўкі, паказы фільмаў, дыскусіі ды некалькі канцэртаў.

Вельмі ўдала паказаліся сёлета беларусы. „Белы сон", які выступіў у суботу на інаўгурацыйным, конкурсным канцэрце, заваяваў прыз рэдакцыі „Super Express", галоўную ўзнагароду, якой падзяліўся з ансамблем польскага тэатра са Львова. Цешыць, што Янка Хоха, які нейкі час быццам бы абсеў, яшчэ раз узяўся за справу і не толькі самарэалізуецца, але і дапамагае развівацца таленту Марты Драль. Пад цвёрдаю, але апякунчаю рукою бескарыснага менеджэра, Альжбеты Стахвюк, „Белы сон" крочыць да спеласці і непазбежных далейшых поспехаў.

У суботу адбыўся яшчэ адзін канцэрт, рок-марафон, які доўжыўся да раніцы. Гонар беларускай рок-музыкі абараняла гарадоцкая „Брага". Тое, што яшчэ летам выглядала як збор цытатаў з розных рок-гуртоў, паспела пераплавіцца ў нешта ўжо сваё, належнае толькі „Бразе". Узровень рок-гуртоў не быў высокі, дык не буду надта выхваляць „Брагу". Хлопцаў чакае цяжкая праца, каб спаборнічаць не толькі з іншымі нацменамі, але і палякамі. Спадзяюся, яны гэта здолеюць, тым больш, што за іхнім мастацкім ростам пільна сочыць колішні бубнач — Лёнік Тарасэвіч.

У нядзелю адбыўся гала-канцэрт, які адкрыў бельскі „Рэаль". Арганізатары, відаць, ведалі, што робяць, даючы гэты ансамбль на самы пачатак. Гурт братоў Кавальскіх выступіў з прафесійнай самаўпэўненасцю і разагрэў публіку. Калі чарговыя выступленні нямецкіх ансамбляў пачалі выхалоджваць залу, на сцэну выйшла „Маланка" і пакарыла публіку стыхіяй беларускай песні. Першую частку гала-канцэрта закончылі гданьскія „Жаваранкі", якія сціпла, але вельмі чыста праспявалі свае песні.

Пасля першай часткі гала-канцэрта ансамблі з Беласточчыны рушылі дадому. Адзначу яшчэ, што падчас двух супольна праведзеных дзён бельскія ансамблі аб'ядналіся ў адзін, пад назвай „Рэальная маланка". Ансамбль гэты няспынна спяваў ад Гданьска недзе да Ломжы, выступіўшы па дарозе перад тубыльцамі пад Астралэнкай.

Падобныя мерапрыемствы, як Фестываль, натуральным чынам выклікаюць параўнанні з іншымі. На агульным фоне нашыя ансамблі выпалі вельмі добра. З гэтага, што я чуў, раўняцца з нашымі мог толькі ансамбль яўрэйскай музыкі „Крукэ" з Кракава. Але ансамбль гэты складаецца з музыкаў з вышэйшай музычнай адукацыяй, ды, як падкрэслівалі самі яўрэі, неяўрэйскага паходжання.

Што датычыць немцаў, дык склалася ў мяне ўражанне, што гэтую меншасць састаўляюць бабулі і першакласнікі. Сціпла паказаліся ўкраінцы, быццам бы не хочучы перцісяя наперад на мерапрыемстве, якое самі арганізавалі. Свой вельмі добры ансамбль з Гурова-Ілавецкага далі на сам канец гала-канцэрта, калі некаму было яго глядзець, бо публіка не вытрымала марафона і разышлася.

Праўду кажучы, галоўным грэхам Фестывалю была гігантаманія. Трэба ж даць удзельнікам і публіцы крыху часу, каб адпачыць, паглядзець горад, пазнаёміцца між сабою.

Думаю таксама, што трэба абмежавацца да сцэнічнай творчасці, бо сачыць за гэтым, што адбываецца па-за сцэнай, большасці ўдзельнікаў і публікі было проста не пад сілу.

Іншай праблемай з'яўляецца поўная адсутнасць польскай публікі на мерапрыемстве, калі не лічыць некалькіх журналістаў. Магчыма, што арганізатары недастаткова разрэкламавалі Фестываль. Больш праўдападобна, што палякаў нацыянальныя меншасці і іхняя культура проста не цікавіць. Можа ў меншым, чымся Гданьск, горадзе, Фестываль стаў бы нейкай падзеяй?

Так ці інакш, быў ён падзеяй для саміх удзельнікаў. Безумоўна нацыянальным меншасцям патрэбна раз у год падобнае свята.

**Алег Латышонак**

**P.S.** Падчас Фестывалю, Беларускае культурнае таварыства „Хатка" (у прыватнасці Гжэгаж Сьрэднява і Дарота Голуб) арганізавала II-я Сустрэчы („варштаты") „Нацыянальныя меншасці і нацыяналізм". Маладыя ўдзельнікі мерапрыемства збіраюцца выдаваць інфармацыйны бюлетэнь меншасцяў.

На канец хачу ўспомніць пра яшчэ адзін поспех гданьскіх беларусаў. Спечаная спадарыняй Кірай Фэнц на г.зв. „Народную бяседу" беларуская бульбяная бабка перавысіла, у ацэнцы саміх арганізатараў, нават украінскі боршч. Яны папрасілі спадарыню Кіру спячы ім бабку на заключную арганізатарскую сустрэчу.

**А. Л.**

# Прашу прабачэння!

У паведамленні „У Бельску ёсць бурмістр" („Ніва" ад 25 верасня г.г.) дапусціў я па сваёй віне памылку. Памылку тым больш прыкрую, што пісаў пра добра мне вядомыя справы. Напісаў я менавіта, што цяперашні бурмістр Бельска Андрэй Сцепанюк быў старшынёю Беларускага выбарчага камітэта ў самаўрадавых выбарах 1990 года. А праўда ёсць такая, што — хаця Андрэй быў актыўным сябрам БВК як у 1990 годзе, так і сёлета — старшынёй гэтай структуры быў Васіль Ляшчынскі. Так было чатыры гады таму, так было і ў гэтым годзе.

Андрэя Сцепанюка і Васіля Ляшчынскага інфармую, што ў ніякім выпадку не было маім намерам заслугі аднаго прыпісваць другому. Не было ў мяне і мэты падлізацца новай уладзе ў Бельску (думаю, што ўлада сама гэтага не прагне). Перапрашаю.

Перад шаноўнымі чытачамі не ведаю як апраўдацца. Хіба толькі перагружанасцю працай.



Свой здымак змяшчаю не па нейкіх маіх мазахістычных схільнасцях — каб за дапушчаныя памылкі плявалі Вы мне ў твар або чаплялі на цвік у прыбіральні. Раблю гэта на выразнае патрабаванне Васіля Ляшчынскага, каб людзі — пабачыўшы мяне за працай — тры разы праверылі, ці добра запісаў я іхнія словы і нічога не пераблытаў. Сам абяцаю на будучыню тры разы перачытваць тое, што напісаў, перад тым як аддаць у друк.

А пры нагодзе, у „Ніве" ад 18 верасня, пішучы пра Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, не то што зрабіў памылку, але не зусім дакладна зразумеў і запісаў словы майго размоўцы. Звярнуў мне на гэта увагу, ужо пастфактум, Лёнік Тарасэвіч. Гэта праўда, што Таварыства ўзнікла 18 мая і праўда, што вестку пра Згуртаванне навагардцаў свету прывёз у Гарадок Сакрат Яновіч. Толькі што было гэта ўжо пару дзён пасля заснавання Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі і ніякім чынам не магла яна паўплываць на гэты факт. Вестка ўцешыла сяброў Таварыства, што ёсць у іх, у пэўным сэнсе, аднадумцы, калі ідзе пра патрэбу стварэння рэгіянальных суполак.

Калі ў двух суседніх нумарах дапушчаны такія недакладнасці, адной перапрацаванасцю вытлумачыцца цяжка. Але ўлічыце яшчэ, шаноўныя чытачы, штодзённыя чорныя думкі журналіста „Нівы" пра будучыню выдання і самога пісакі. Мо тады з большай цярплівасцю будзеце ацэньваць эфекты нашай працы.

Гэта, зразумела, не дае мне права пісаць абы-што. Рады старацца, каб выходзіла як найлепш.

**Мікола Ваўранюк**

## НА ЦЭНТРАЛЬНЫМ У ВАРШАВЕ

Пасажыраў шмат таўпіцца
На Цэнтральным у Варшаве.
Я наведваю сталіцу
Толькі ў нейкай важнай справе.

Еду пасля спраў дахаты,
Прыпыніўся на вакзале.
Каля кас людзей багата,
Перапоўненая зала.

У чарзе стаю гадзіну
І білет купіў нарэшце.
Міні-бар гудзе няспынна,
Тут я сеў, каб нешта з'есці.

Столікі, як той канвеер,
Прапускаюць тлум кліентаў.
Кружыць цыганё з надзеяй,
Мо дадуць што з гэтай ленты?

Спажываюць людзі хутка,
Ад'язджаюць зноў з вакзала.
Рогат п'янай прастытуткі
Скалыхнуў раптоўна залай.

Абяздолены старэча
У кашы зарыўся носам.
Пажывіцца хоча нечым,
Злізвае кардонны посуд.

Ціснуся ў вагонным віры,
Здабыць месца ўсіх трывожыць.
Шмат яшчэ ўсё пасажыраў,
Хоць каштоўным падарожжа.

**Віктар Швед**

## „АМЕРЫКАНЦЫ"

Не зайздрошчу я тым, якія ў заработкі выязджаюць у амерыканскі „рай" і там выконваюць найгоршую работу. Але не гэта найважнейшае, бо ўсюды трэба працаваць і прыміляцца працадаўцу. Важнае іншае: людзі трацяць пашану для роднага, іх галоўным кумірам становіцца долар. Вось адзін малады чалавек ад нас нейкім чынам апынуўся ў Амерыцы. І хаця ў нас часта заглядаў у кілішак, там хутка стаў на ногі і прысылаў сваім бацькам пачкі, долары, лісты. Аднойчы бачыў я, як бацька яго цалаваў гэтыя долары; падумаў я пры гэтым, ці ён хаця б адзін раз так шчыра пацалаваў сваю жонку ці бацькоў, як гэтыя зялёныя паперкі. Цяпер узо аднак гэты дзядзька долараў не цалуе з вельмі простай прычыны: сынок даўно ўжо перастаў прысылаць не толькі долары, але і лісты. Другі малады чалавек, які выехаў каля дзесяці гадоў таму ў ЗША, таксама спачатку прыслаў некалькі лістоў і долараў, але ўжо пяць гадоў няма ад яго ні слуху, ні духу. Не ўсе аднак, што выехалі ў Амерыку, так лёгка цураюцца роднага. Ведаю дзве сям'і з Бярэсця, якія мо пяць гадоў таму выехалі на пастаяннае жыхарства ў ЗША. Абсталяваліся нядрэнна, дзеці іх гавораць па-англійску, роднай мовы амаль не ведаюць. Некалькі разоў гэтыя людзі наведвалі Радзіму і гаварылі, што на сённяшні розум не паехалі б яны ў амерыканскі „рай". Дзіўна гэта, бо ведаем, як жывецца ў Беларусі. Аднак, як кажуць, усюды добра, дзе нас няма.

**Мікалай Панфілюк**

У Нараўцы

## БУДУЮЦЬ ПРЫГОЖУЮ ШКОЛУ

Неўзабаве будзе год з таго часу, калі пачалі пабудову вялікай школы для чатырохсот дзяцей у Нараўцы. Зараз нараўчанская школа мае 367 дзетак. Частка з іх даязджае школьным аўтобусам з вёсак, у якіх раней былі школы — з Альхоўкі, Плянты і са Скупава. Цяпер школа знаходзіцца ажно ў... шасці будынках. Гэта надакучыла і настаўнікам, і вучням.

Пацяшальным ёсць тое, што ў новай школе будзе спартзала. Будуе яе Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства. Скора будзе гатовы першы паверх дыдактычнай часткі школы і блок пачатковага навучання. Аграмадны мураваны будынак будзе мець усе выгады. Для школьнага комплексу адведзена плошча ў два гектары. Варта адзначыць, што і месца пад будову вельмі трапна выбранае. Ва ўсім гэтым вялікая заслуга Праўлення гміны ды войта Мікалая Павільча.

**Янка Ляўкоўскі**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1990—06—20.**

Перадапошні дзень вясны (заўтра ад 17.30 пачнецца астранамічнае лета).

Сустрэчы — мая ў ліцэі, а Лёніка ў пачатковай трэцяй. У Бельску. У яго і ў мяне — уражанне выпадковасці, непадрыхтаванасці вучняў etc. Для мяне, дык гэта ўжо не навіна, але ён — пакідаў Бельск з пачуццём страчанага часу. А яшчэ — у гэтых, так званых, беларускіх школах не пачуеш... беларускага слова, ані сярод вучняў, ані настаўнікаў. Роднамоўе настолькі чужое ім, што нават у маёй прысутнасці цяжка гаварыць па-беларуску дзеткам ды іхным выхаваўцам. Рыхтык, бы ў **БССР**аўскіх „городишках" усё жывое шчабеча па-руску. Толькі беларускасць самое ўлады можа адвярнуць працэс знікнення нацыі; аніякія апеляцыі да сумленнага народнага, бо яно ёсць фікцыяй.

Увечары, у Беластоку, — начоўп вэрхалу мне з Таняй менавіта Валік Сельвясюк з сябрынаю. Трэба было пашыць ім бел-чырвона-белыя сцягі бо раніцай выязджаюць у Менск дзеля маніпуляцыі публікай у час выступленняў там „Васілька" з Амерыкі. Гэтыя самадзейнікі гергечуць па-ангельску, як нашы „пшэкаюць" па-польску, а савецкія „сыкаюць" па-руску. Так „цвіце" беларуская нацыянальная.

**1990—06—24.**

(...) Лёнік востра ідзе ў напрамку ўтварэння з Гарадоцкай гміны беларускага палітычнага энклава. Зраблю ўсё магчымае мне, каб падтрымаць яго!

Зноў добра пішацца эсэістыку і аніяк не даецца для мяне апавяданнейка.

**1990—07—16.**

(...) Сёння ж Сокалаў-Воюш, вяртаючыся з фестывальнага „Басовішча" ў Гарадку, наехаў са сваімі адаратарамі маю кватэрку і ўсё гнуў, каб аднавіць арганізаванне Польскага камітэта „Дзеці Чарнобыля", правaленае дацэнтам Грушавым (цяпер ён нібыта адумаўся). Бр-р-рр, холад! Не дапусці Божа зноў звязацца мне з гэтымі хаотыкамі! Адбяруць — і здароўе, і добрае імя.

У іх няма культуры дзеяння.

Яны — моцныя толькі ў языку.

**1990—07—17.**

Тыднямі і месяцамі займаюся ад рання да ночы ганаровай грамадскай дзейнасцю, а папраўдзе — усё выручкай кагосьці, усё ствараннем камусьці лепшых умоў дзеля чагосьці. Здаецца, што трактуюць мяне ўжо, як нейкага добрага дзядзьку, фраернага... (...)

**1990—07—18.**

Калісьці пісалі ў часопісах пра мае мініяцюры, апавяданні, аповесці. Цяпер жа — пра тое, чым я займаюся не ад душы, але ад маральнага прымусу. Вымушаная дзейнасць зрабіла з мяне якогасьці палітыка; засланіла як пісьменніка.

З М. Прускім. Яшчэ адна гутарка з эмігрантам, якой магло б і не быць. Карысці ад яе столькі, што пацвердзілася прадбачанае заніканне іхнай цікавасці да Беластоцкага краю, спецыяльнае значэнне якога меншае разам з лібералізацыяй пашпартнай палітыкі ў саветаў. — На сёлетнюю Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амерыкі прыедзе цэлы натоўп дзеячаў БНФ „Адраджэньне" (...)

Мы тут не можам ужо разлічваць на істотную матэрыяльную дапамогу з боку эміграцыі, а самі вельмі бедныя, каб мець за што разгарнуць значную публічную дзейнасць. (...)

**1990—07—27.**

Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларускай ССР, аднагалосна прынятая камуністычнымі дэпутатамі (230); дэмакратычныя (100) — пакінулі залю пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Гэта нейкі радэзійскі варыянт незалежнасці; толькі пачатак да сапраўднай.

Цікава, што ў камуняцкай дэкларацыі — шмат **БНФ**аўскіх пастулатаў, м.ін. пра нейтралітэт, без'ядзерную зону, уласную армію. (...)

Як ні думаць — на ўсходняй мяжы паўстае перад вачыма палякаў Беларуская Дзяржава. (...)

Пералом і ў псіхалагічнай сітуацыі беларускай нацыянальнай меншасці ў беластоцкім прымежжы.

Народ, які не ведае, што такое незалежнасць, не можа быць адразу незалежным.

**1990—08—08.**

Учора выматаў мяне фін, Martti Puukko з нейкай шведскай газеты ў Хельсінкі. Думае ён глыбей пайсці ў бел. тэматыцы. (...)

Былі тэлефоны з Бельска, што Беларускае тэлебачанне перадае маё інтэрв'ю (фільмаванае ў Крынках яшчэ ўвесну).

**1990—08—15.**

(...) БДА не будзе ў стане ўтварыць хоць адзін прыстойны штат, на які трэба б мінімум 12 мільёнаў злотых у год. А без яго не набудзе дзейнасць патрэбнага, штодзённага, пульсу. Застанемся партыяй выбарчых кампаніяў і спарадычных акцыяў. Гміннай, як трапна прадбачвае Латышонак.

Сітуацыя і так радыкальна зменіцца ў нашу карысць, калі БССР пачне рэалізаваць свой суверэнітэт. Мы ўжо не можам прапасці, калі б нават і захацелі ўласнай загубы.

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— М. Прускі — Мікола Прускі, эміграцыйны выдавец, жанаты з беларускай з Беластоцкага краю;*

*— Марці Пуко цікавіўся нашай меншасцю па той прычыне, што ў Фінляндыі існуе значная колькасць шведскага насельніцтва, як і фінскага на паўночным усходзе Швецыі, што выклікае па аналогіі падобную дэмаграфічна-культурную з'яву ў нашым старонні: беларусы на польскім баку дзяржаўнае мяжы і палякі — на беларускім;*

*— Грушавым — Генадзь Грушавы, адзін з мінскіх лідэраў гуманітарнага руху „Дзеці Чарнобыля";*

*— Сяржук Сокалаў-Воюш, найпершы бард беларускага адраджэння; цяпер жыве ў Нью-Йорку;*

*— радэзійскі варыянт незалежнасці — маецца на ўвазе ангельскую калонію Радэзія, што была ў Цэнтральнай Афрыцы, у якой каланізатары апавясцілі суверэнітэт, каб прадухіліць уладу чорнай большасці і зноў вярнуцца на ўлонне брытанскай імперыі, у гэты раз як псеўдасуверэннае дзяржаўнае ўтварэнне (вельмі аналагічна бачым тое ў цяперашніх пачынаннях русафонскага, агентурнага ўрада ў Мінску). Колішняя Радэзія — гэта сённяшняе Зімбабве.*

*МІРА ЛУКША*

# СЁЛЕТА СВІСЛАЧ ЗАКВІТНЕЛА...

Няміга. З даху высачэзнага над ёю будынка відна, як долу, у бок цэнтра, збягаюцца няпростыя вулічкі, цесна забудаваныя па баках, румяныя дахоўкі і бляшаныя дахі, аблупленую фарбу сценаў, тратуары як абсыпаныя шапікамі з „еўрапейскімі" таварамі. За Свіслаччу, квітнеючай зялёна як алейнай фарбай ад гарачыні — Траецкае прадмесце, перад якім ад нядаўна ідзе ў бок Нямігі Язэп Драздовіч (хтосьці нядаўна адламаў быў літары на помніку, але ўмацавалі ўжо новыя, каб народ ведаў, што гэта за дзівак у плашчы раскінутым на ветры вандрус па Беларусі). Побач царквы „Екацярынінскай", дзе раней быў дзяржаўны архіў і дзе цяпер выдаюць пасведчанні хрышчэння на старабеларускай мове (там нядаўна хрысціў майго малога сябра айцец Грыгорый), з суворымі каменнымі абліччамі манументальныя фігуры абаронцаў праўды і шэрыя блокі бізнесу ды крамы, дзе прадаецца ўсё за іншаземную валюту. Над Нямігай 6, на 13 і 14 паверсе, у самым шпілі — майстэрні двух мастакоў з групы „Няміга". Там з ранку да вечара з пэндзлем змагаецца вялікі казак з магутнаю галавою Майсея, Кірушчанка Сяргей Іванавіч. І Алег Мікалаевіч Маціевіч, прафесар з Беларускай акадэміі мастацтваў, якога лёгкі пэндзаль ловіць колер і прастору. У іх майстэрнях — шпалеры іхніх твораў. Працуюць, хоць штораз цяжэй з матэрыяламі, з аплатамі за майстэрні, а гэта справа немалаважная для артыста.

Алег Маціевіч хоча паказаць мне сваіх сяброў на Нямізе і не толькі. Ён хіба тут ведае ўсіх — і мастакоў, і... бомжаў, і міліцыю ад радавых, што білі яго калісьці за „общепонятный" (лепш сказаць — за яго недахоп) па некаторых афіцэраў, якія час-часом хочуць пабыць сярод багемнай „эліты". Недалёка адсюль ёсць майстэрня архітэктара Славы Марухіна, брата славутага Юрыя, апэратара кінафільмаў м.інш. у Мікіты Міхалкова. Рускі хлопец з добрымі раскосымі вачыма і пачцівай круглай галавою, шчыры і гасцінны. Калісьці Уладзімір Караткевіч сказаў Алегу: „Калі размаўляеш з тым чалавекам, што не ведае беларускай мовы, карыстайся ягонай". Слава са здзіўленнем пазірае на Алега Мікалаевіча — як завёўся, то не можа перастаць гаварыць па-беларуску. Больш-менш браты-славяне разумеюць, пра што ідзе гаворка, і я ж рускую мову ведаю. Пакуль хлопцы прыносяць нейкае пітво (моцныя напоі практычна немагчыма піць у такую спёку, але мастакі могуць усё!), парэчкавае варэнне для мяне і марозіва, каб гэтыя скарбы пакласці каля закусі — сухіх, роўненька парэзаных кавалачкаў хлеба, я аглядаю даволі абшырную і з густам аформленую майстэрню. Наракаюць мастакі, што аплата за памяшканні так узрасла, што даводзіцца думаць пра халтуру, матэрыялаў няма, і творы прадаваць цяжэй, хоць, бывае, і неахвота, а пісаць, праектаваць жа трэба, так як і жыць... Калісьці артысты адчувалі дзяржаўны мецэнат і ў кепскім, і ў добрым значэнні. Цяпер даводзіцца цалаваць клямкі спонсараў, сярод якіх бываюць такія, для якіх мастацтва гэта выключна рамяство а творы гэта звычайны тавар, такі як каструлькі, цэгла ці батоны „снікерс". Мелі яшчэ надзею, што прэзідэнцкія выбары выйграе чалавек, які разумее патрэбы нацыянальнай культуры і мастацтва і ляжыць яму на сэрцы іх развіццё...

У кампаніі паявіўся маладжавы з выгляду, гадоў каля пяцідзесяці, мужчына са спакойным, без выразу тварам. Звярталіся да яго „пракурор". Сапраўды, пасля пару келіхаў пачаў ён скардзіцца, што лічаць яго кепскім пракурорам, бо ягоных дванаццаць абвінавачаных выпусцілі на волю. Відна, кепскі такі савецкі пракурор, калі з рук Справядлівасці вырываюцца злачынцы, а ён жа абавязкова павінен іх пасадзіць у турму, бо, па-савецку, невіноўных ніколі не судзяць! Расказаў крыху пра сваё жыццё, пра тое, як калісьці ахоўваў мяжу з Кітаем, якіх цудоўных сяброў меў па рэспубліках, якія вырваліся з-пад апякунчага крылля СССР, пра сваё гэдээраўскае дзяцінства... У пэўны момант перасеў за іншы стол, быццам крыху адключыўся, відна, змаглі яго „Белая Русь" і гарачыня. Гаспадар выйшаў кудысьці са знаёмай, і мы з Алегам пачалі гамонку па-беларуску. У пэўны момант нашу размову перарвала рэзкае:

— Чего вы выпендриваетесь?! Какой тут вам белорусский язык! Алик, откуда у тебя это взялось, дурачище?

— Прабачце, калі ласка, можа, перайсці нам на расейскую мову, каб вы зразумелі? Прабачце за некультурнасць, але так атрымалася, але мы тут гамонім пра нашыя асабістыя справы... — азвалася я, але пракурор працягваў далей да Алега:

— Алик, тебе ещё надо и это в жизни? Какая тут может быть „беларуская мова"?

— Ну, я ж — беларус.

— Но откуда взялась у тебя эта „мова"?

— З вёскі, я ж з-пад Магілёва. Я ж вучыўся ў Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча і ў Барадуліна, яшчэ тады, калі яе так і трактавалі, як ты цяпер...

— Ну, откуда у тебя такое? Каких ты корней ищешь? Они же у тебя не могут быть белорусскими, потому что этих корней уже давно нет! Их у тебя нет и быть не может!

— Прабачце, калі ласка, а вашы карані дзе? — удалося мне ў ягоны паток уціснуць і свае слова.

— Я родился в Потсдаме в семье военного, ребёнком ездил с родителями по всему Союзу, и вот уже двадцать лет работаю в Минске. Тут моя страна. Тут до сей поры была толерантость. И почему мне вдруг надо изучать этот диалект? Я и без этого обойдусь, как обойдётся и вся Беларусь!

— Ну, выпадае мне вас толькі шкадаваць...

Спадар пракурор, з якога вачэй вынікала, што гатоў быў мяне ўдарыць ці плюнуць у твар, выйшаў усхваляваны хутка ў двор. Шкада, можа сказаў бы яшчэ што цікавае...

Праз пару дзён пазнаёміў мяне Алег Мікалаевіч са сваімі сябрамі-вітражнікамі, што маюць майстэрню ў падвальчыку насупраць Камароўскага рынка.

— Мы — толькі выканаўцы, а не творцы, — сказаў з-над паяльніка, якім склейваў свінцовыя стужкі паміж каляровымі шкельцамі, Толік. Віталь бедаваў над тым, што цяпер прыгожае і высокае люду непатрэбна, бо мусіць думаць ён пра хлеб і каўбасу, каб проста выжыць. З іхняй пячоры выляцяць шкляныя каляровыя птахі, што потым рассядуцца да вялікіх шыбах глядзельнай залы нейкага завадскога дома культуры. Наўрад ці хто з гледачоў падумае пра звычайных выканаўцаў вітража — Міхася, Толіка, Віталіка... Іншая справа — мастакі, вось Алег Маціевіч, Юрка Багушэвіч. Яны — стваральнікі.

Паявіўся ўрэшце той славуты Юрка, праўнук Францішка, і амаль ад парога кінуўся да Алега:

— Слушай, Алик, ты что — взбесился?! Откуда тебе нужна „мова"? Я же тебя знаю, ты это всё делаешь для коньюнктуры, для моды. Она же у тебя, эта мова, неестественная! Послушай строфы моего прадеда, вот это — белорусская мова. Или у моей бабушки — какая мелодика! А вы что выпендриваетесь, ты и Марачкин, в политику полезли? Бросьте вы эту дурость! Дело художника — писать картины.

Алік то бялеў, то чырванеў. Пачаў нешта пра тое, што гэта Юрка больш красуецца сваёй пальшчызнай і каталіцтвам, а якраз Маціевіч, калі гэта было немагчымым, не для моды адкрываў Семашкевіча, Філіповіча, Драздовіча, выдзіраў іх карціны з падвалаў музеяў, адкрываў дла Беларусі яўрэйска-беларуска-еўрапейскага Суціна... Багушэвіч толькі кпліва пасміхаўся:

— Алик, я же тебя знаю больше двадцати лет! Учились же вместе в академии. Табе каля пяцідзесяці гадоў, і табе прыснілася беларушчына? Ніколі ў такі метамарфоз не паверу! Ды і нікому гэта не было патрэбнае, і не ёсць...

Замучылі мяне ўсе гэтыя „разгаворы", выйшла я на гарачую вуліцу, пахадзіць па кнігарнях. У кніжных ма-

*Працяг на стар. 10*

# Неюбілейная прамова

*Пасля віншавальных выступленняў афіцыйных гасцей з выпадку 50-цігоддзя Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Бранiслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім вырашыў і я ўзяць голас і сказаць некалькі слоў праўды пра нас — выпускнікоў гэтага ліцэя. Ведаў я, што мае словы могуць не спадабацца маім калегам, але, як гаворыцца: „Платон мне дарагі, але праўда даражэйшая". Затым сказаў я так:*

**Паважаныя сяброўкі і сябры!**

Усе мы захапляемся, і правільна, высокімі дыдактычнымі дасягненнямі нашага беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім на працягу мінулага паўстагоддзя. На жаль, наш ліцэй толькі пад вонкавай шыльдай з'яўляецца беларускім. Унутры яго беларускасць зводзіцца толькі да аднаго прадмета — беларускай мовы, і яна гучыць амаль выключна на занятках гэтага прадмета. Наша школа замала працавала і працуе на ўздым нацыянальнай свядомасці, на развіццё пачуцця нацыянальнай годнасці вучняў, баючыся, каб, барані Бог, польскі бок нашага патрыятызму не ўспрымаў як праявы беларускага нацыяналізму. А помніцца ж мне, што калі я вучыўся тут у пасляваенны перыяд многія прадметы, у іх ліку нават латынь, паясняліся на беларускай мове і праводзіў гэта наш незабыўны Яраслаў Васільевіч. І гэта нікому з нас, выпускнікоў, не перашкодзіла паступіць у польскія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Быў нават у гісторыі нашага ліцэя такі час, калі яго дырэкцыя паздымала ўсе візуальныя беларускія акцэнты ў школе.

Нічога тады дзіўнага, што падчас анкетызацыі, праведзенай у ліцэі ў сакавіку гэтага года Янам Чыквінам, выпускніком нашага ліцэя, беларускім паэтам, прафесарам Варшаўскага універсітэта, на 326 апытаных вучняў школы аж 165, звыш 50%, падалі польскую нацыянальнасць і толькі 75 вучняў (23%) беларускую. 80 вучняў не патрапілі акрэсліць сваю нацыянальнасць. І таму выпускнікі нашай школы, становячыся інтэлігенцыяй, адрываюцца ад свайго народа, выракаюцца роднай мовы і гісторыі ў карысць суседзяў, змяняюць свой твар і пераходзяць у іншую нацыю, прыпісваючы сваю „фальшывую свядомасць" усім беларусам.

Калі мы хочам, каб нас шанавалі іншыя, каб з намі лічыліся як з нацыяй, каб нас трактавалі нароўні з людзьмі іншых нацыянальнасцей, у першую чаргу з народам польскім, школа павінна выхоўваць моладзь у духу беларускасці, засвойваць ёй праўдзівую гісторыю нашага народа, каб ведаць і шанаваць імёны яго вялікіх сыноў і дачок, выдатных дзеячаў на ніве асветы і культуры. У сценах нашай школы не можа быць пагарды да беларускага народа і мовы, да нашай нацыянальнай культуры, нашай традыцыі і духоўнасці.

Шаную памяць Яраслава Васільевіча і за гэта, што ён у кожны святочны дзень у арганізаваны спосаб вадзіў вучняў школы ў царкву на малебен, прывіваючы нам любоў таксама да нашай духоўнай праваслаўнай традыцыі.

Прашу не крыўдаваць на мяне за словы шчырай, аднак, горкай праўды, асабліва за змест верша, які зараз прачытаю:

**МЫ БЕЗ НАРОДУ, РОДНАЙ МОВЫ**

Мінула ўжо і паўстагоддзя
Нашага роднага ліцэя.
Ды хто ж нас ведае ў народзе?
Якою мы жывем ідэяй?

Нас каля тысяч трох па ліку
Даўняе моладзі вясковай.
А хто ж з нас з колькасці вялікай
Не пагарджае роднай мовай?

Мы ўжо ў асноўным не нацмены,
Гэта даўно ў нас выйшла з моды.
Мы з роднае сышлі арэны,
Зракліся мовы і народу.

Мы не чытаем роднай „Нівы",
Бо на чужым мы возе едзем.
З нас кожны сапраўды шчаслівы,
Што не кранаюць нас суседзі.

Кажуць заўжды: — Народу сіла
У інтэлігенцыі ягонай.
Таму й народ наш такі хілы —
Ён без падтрымкі, абароны.

Святкуем сёння мы паўвека
Як быццам беларускай школы,
Нацыянальныя калекі.
Далейшы лёс наш невясёлы.

* * *

А вось выказванні, якія я пачуў пасля майго выступлення ў прыватных размовах.

**Выпускніца:**
— Ты, Віктар, п'еш не да нас, прысутных на З'ездзе. Вінаваты тыя, што не прыехалі.

**Выпускнік:**
— Што ты, Швед, здурэў на старыя гады? Хочаш паўстрымаць нармальны працэс асіміляцыі? Упіхаеш калок у „шпрыхі" асіміляцыйных калёс? З'езд мае святочны характар, прысутнічаюць на ім прадстаўнікі цэнтральных улад, а ты выходзіш на трыбуну з такімі дурнотамі!

**Выпускнік:**
— Што ты, Швед, вылазіш нам тут з менскай гаворкай? Ці забыў ты ўжо сваю, маранскую? Нашы карані не ў Менску, толькі ў Кісўскай Русі.

**Настаўніца:**
— Калі б увялі мы навучанне іншых прадметаў па-беларуску, бацькі забралі б ад нас сваіх дзяцей.

**Госць:**
— Ну што ж, выступілі. Гэта ваша прыватная справа. Выкінулі з сябе набалелае.

**Віктар Швед**

# СУСТРЭЧА З ВАЛКАВЫЦКІМ

*Працяг са стар. 1*

каратыўнай раслінай. Адна баба падышла: а, вы збіраеце, кажа, яна лечыць ад усіх хвароб! Я чытаў, што ў Сібіры сапраўды лечаць гэтым усё.

— Доўга ты яшчэ тут прабудзеш?

— Тры гады ўжо, як усё лета, да позняй восені сяджу. Унук пасядзіць пару дзён і ўцякае ў горад. Там яму цікавей. Там жа камп'ютэр! А Вера няшмат цяпер бывае, мусіць хворую маці даглядаць...

— Дык ты найчасцей тут адзін? — уздрыгаюся я.

— З Барысом Руско пару дзён таму былі мы ва ўрочышчы Шчэкатова над ракой Лутоўняй, аглядалі старыя курганы, якіх там каля сямідзесяці. Нават у Нацыянальным парку мы налічылі ў розных месцах столькі ж.

— А пішаш толькі тое, што паяўляецца ад часу ад часу ў „Ніве", ці мо яшчэ нейкія ўспаміны?

— Не, успамінаў ужо не пішу. Збіраю матэрыял па Белавежы. Адкапаў сваё гняздо. Ужо ў палове XVI стагоддзя памешчыкі Валкавыцкія перапісваліся з Баторыем. Толькі пісаліся яны тады „Волковицкие", мой дзед па метрыцы шлюбу з 1876 года яшчэ так называўся. Не магу знайсці моманту, ад калі мы сталі Валкавыцкімі. Я бачыў адзін пашпарт з 1914 года — ужо было „ы".

— Напэўна, ты шмат чытаеш?

— Адкрыў для сябе... Ніцшэ. Які ж ён актуальны! Аказваецца, у характары ўлады нічога не змянілася. Чалавек — яшчэ горшая малпа ад праўдзівай. Цяпер я ўзяўся за гісторыю Кітая. Шукаю старажытнасці, хачу разгадаць загадку курганоў, месцы старых культаў. Чаму менавіта там, дзе найбольшае праменяванне, людзі выбіралі месцы культу? Ведаю, што ў геапатагенных зонах, дзе выступае энергетычны слуп, людзі адчуваюць сябе добра, праходзіць боль. Напрыклад, пры дубах каля „Івы" або ў лесе, дзе была паганская святыня — капішча.

— Маеш ты цяпер удосталь часу на разважанні...

— Вы людзей дарма не крыўдзьце ў „Ніве"! Не ўсё, пра што гавораць, трэба пісаць.

— Чытаеш дакладна?

— У кожны чацвер Барыс прыносіць.

— І далей блізкая?..

— „Ніва" ёсць „Ніва".

— Юрка, скажы па шчырасці, ці не агортваюць цябе ў адзіноцтве, пасля такой бурлівай працы, нейкія чорныя думкі?

— Чорных думак не маю. Ты мне калісь прыснілася... Быў вельмі прыгожы сон!

— Ці можна пра гэта напісаць?

— Ну, вядома. Гэта ж праўда.

Прыйшоў верны сябра Барыс Руско. Ізноў нейкія планы...

— Калі б ты прыехала на даўжэй, пайшлі б разам глядзець курганы, — кажа на развітанне Валкавыцкі.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

P.S. Ага, не спыталася пра здароўе. Пасля супакоіла сябе: бадай, не было патрэбы пытацца. Відаць гэта, зрэшты, на здымках.

**А.Ч.**



*Тут Валкавыцкі адчувае сябе найлепш.*

# УСПАМІНЫ ПРА БЕЖАНСТВА

*Працяг са стар. 1*

хварэць на дызентэрыю. Памёр тады наш бацька, два тыдні на фурманцы ляжаў хворы. Мы нават не бачылі, як яго пахавалі. Нашая мама таксама захварэла. Добра, што даехалі ў Маршанск, там палажылі маці ў бальніцу. Мы, пяцёра дзяцей, паехалі далей, разам з людзьмі з Залук. Далёка не заехалі. Па дарозе шукалі вады і травы для каня. Брат быў малады, і ў гаспадарцы не разбіраўся. Распрог ён каня, спутаў і пусціў вады напіцца. Конь напіўся, хацеў паварнуцца і... бабух у ваду. Выцягнуць яго з ямы мы не здолелі. Людзі, што з намі ехалі, давай гадаць дзе нас цяпер падзець. У нас не было ніякіх дакументаў і таму нас ніхто ў цягнік не прыняў бы. „Пойдуць па-вёсках хлеба прасіць так і загінуць. Давайце, завязем іх да маці, у бальніцу", — вырашылі людзі. Зноў усе вярнуліся ў Маршанск. У горадзе не ведалі, што з намі зрабіць. Урэшце пасялілі ў ізалятар. Там мы не маглі доўга застацца, трымалі ж там злачынцаў і хуліганаў. Праз два тыдні перасялілі чацвёра дзяцей у манастыр, 5 кіламетраў за горадам. Мне пашчасцілася, засталася я ў гэтым ізалятары, дзе памагала кухарцы. Наведалі мы маці. Спачатку яна пералякалася пабачыўшы нас:

— Чаго вы, дзеткі, сюды прыехалі?

— Конь утапіўся, — заплакалі мы ўсе.

У гэтай бальніцы была лекарка з Беластока, таксама з бежанцаў. Яна дапамагала нам, як умела. Тры месяцы ў Маршанску прабылі.

— Ідзі ў партком, там яўрэй піша бежанцаў на выезд. Але глядзі, ён цвёрда з табой абыдзецца. Спачатку скажа, што „бумагі" ўжо адасланыя. Але ты не здавайся, прасі ласкі, прама да ног падай, рукі ідзі цалаваць. Яўрэі наколькі гордыя, настолькі міласэрныя, — параіла мне зноў тая ж лекарка.

І я пайшла.

— Здравствуйте, барин! — гавару.

— Здравствуйте, за чем хорошим?

— К вашай милости, барин... — пачынаю свой расказ.

— Нет! Все бумаги отосланы, — рашуча сказаў мне яўрэй.

Я кінулася цалаваць ягоныя рукі, расплакалася, аж урэшце кажу, што сюды выслала мяне лекарка.

— Так-с, яна цябе прыслала, кажаш. Не плач, дзіця, — пацешыў мяне на канец і развітаўся.

Праз месяц мы атрымалі з Масквы дазвол на выезд. На чыгунцы заехалі ў Беласток. Радасці не было канца. У Залуках рос лес. Перад намі вярнуліся ўжо пяць сем'яў.

Пачыналі мы ўсё спачатку. Дасталі ад урада мы дрэва, самі секлі, пілавалі, вазілі, будаваліся. Жыць было невыносна цяжка. За кавалачак хлеба парасходзіліся мы ўсе працаваць па людзях.

Былі і такія, што, пабудаваўшыся, кінулі ўсё і назад у Расею паехалі. З нашай вёскі ў Кінель-Чэркасах засталіся дзве дзяўчыны і чатыры кавалеры.

Многія бежанцы загінулі па дарозе, хто са старасці, хто з голаду, а хто з хваробы памёр. Многія прыязджалі яшчэ ў 1922 годзе.

У бежанстве мы былі 6 гадоў".

**Запісала**
**Ганна Кандрацюк**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

*ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ*

*Ала Канапелька*

### ГАННІН СЛОЎНІК

Калыханка ў нас — „каханка",
а падушка —
проста „дуська",
месяц —
„месенька" між хмар,
а камар —
кусачы „мар".
І фасолька —
гэта „солька",
кошка Мурка —
„Мука" толькі.
Дакумент —
няйначай „мент".
Разумееце мяне?
Слава — „Лява",
Ганна — „дама"...
Я кажу — тлумачыць мама!

### ЗАЕЧЫ ГРЫБ

Будзе сварка, будзе крык —
зайка сеў на баравік!

Для цара грыбоў ні разу
не было такой абразы!

Чырванеюць мухаморы,
і лісічкі не ў гуморы.

Падабабкі, сыраежкі
не хаваюць свае ўсмешкі.

Цар грыбоў упаў у гнеў
і ад крыўды пабялеў.

З той пары ён стаў дарэчы
называцца — грыб заечы.

Там, дзе зайка клаўся спаць,
трэба гэты грыб шукаць.

У звярка чатыры лапкі —
у траве чатыры шапкі.

А калі грыбнік ты варты —
адшукаеш грыб і пяты.



*Спяваюць дзяўчаты з Ласінкі.* **Фота М. Ваўранюка**

Помнікі архітэктуры Беларусі

## Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне

Знаходзіцца ў гістарычным цэнтры Гродна і размешчана на высокім пагорку, які аддзяляецца ад Замкавай гары рэчкай Гараднічанкай і з'яўляецца берагам Нёмана. У даўнія часы гэта мясцовасць атрымала назву Каложа. Помнік узведзены ў другой палове XII стагоддзя і зараз захаваўся толькі часткова. Некалі гэта быў прыгожы храм, які меў шэсць круглых слупоў і тры апсіды, што выступалі за абрыс усходняй сцяны. Пад час рэстаўрацыі храма выяўлены рэшткі фрэскавага роспісу.

Будынак царквы зроблены з добра абпаленай плінфы, якая часам мае знакі цагельнікаў на яе тарцах. Падлога ў храме была выкладзена з прыгожых фігурных паліваных плітак розных памераў і колераў. У інтэр'ерах Барысаглебскай царквы выкарыстоўваліся галаснікі — вялікія гліняныя гаршкі з доўгай і вузкай гарлавінай. Акрамя рэзанансу яны памяншалі вагу скляпенняў і змяншалі гарызантальны распор. Таму купал і слупы, што падпіралі скляпенні, былі больш тонкімі, і ўнутраная прастора царквы мае выгляд вялікай залы.

Фасады Каложскай царквы аздоблены камянямі і паліванай керамікай. Здаецца, што сцены царквы, упрыгожаныя рознакаляровымі крыжамі, каменнымі ўстаўкамі цёплых колераў, зіхацяць каштоўнымі камянямі. Асабліва гэта бывае пасля веснавога дажджу, калі ў сонечных промнях на маёліцы і валунах успыхваюць рознакаляровыя вясёлкі.

**Алег Трусаў**

*Паўлюк Пранузa*

### ПІША ЛІТАРУ МАРЫНА

Піша літару Марына,
Піша не адну хвіліну.
„І" спачатку не ўдаецца:
То направа пахіснецца,
То заходзіць за лінейку,
Быццам бы па справе нейкай.
Можа быць, пяро благое?
Неслухмянае такое?
Два радочкі напісала —
Весялей дзяўчынцы стала.
Не адразу ўсё даецца.
Болей „І" не пахіснецца.
Па лінейцы — па дарожцы
Крочыць на танклявай ножцы.

### ВОСЕНЬ ДРЭВЫ ПАДПАЛІЛА

Свеце брат сказаў Даніла:
— Восень дрэвы падпаліла.
І яна сама у скверык
Завітала, каб праверыць...
Пэўна, здагадаўся вецер,
Што лісток патрэбен Свеце.
Ён дыхнуў — і з шапкі клёна
Ліст упаў, як жар, чырвоны.
Яго Света падымае.
Ён... халодны, а палае.

### ВЕЛАСІПЕДЫСТ

Ці паверыце вы, дзеці?
Адбылося гэта так:
Ехаў на веласіпедзе,
Адгадайце, хто? Гусак.
Націскаў ён на педалі,
Ногі затаміў, спацеў.
Крылы моцна руль трымалі.
Рэчку ўраз пераляцеў.
Прызямліўся ён на лузе,
Сціхнуў яго крылаў свіст.
Гагаталі дружна гусі:
— Добры вела-сі-пе-дыст.

### АКРАБАТКА

У малой ваверкі
Вочы, нібы зоркі.
Па яліне, па бярозе
Скача, нібы па дарозе.
А дарога тая
К небу узлятае.
Дзівіцца Ігнатка:
— Вось дык акрабатка!

### МЫЛА

Узяла Галінка мыла
І два вочкі ў ім зрабіла.
— А нашто? — спытала мама.
— А каб бачыла, дзе пляма.

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

19

### СВАРКА З РУДЫМ САБАЧКАМ (2)

Пясчаная сцяжынка падняла мяне на пагорак. З правай рукі, дзе да вайны стаяў дом Якуба Коласа, зарастала крапівою і палыном выгаралая сядзіба. Лявей тулілася некалькі драўляных дамочкаў, добры клопат і ўтулак так і павяваў ад іх белых аканіц, чысценькіх ганачкаў і аплеценых хмелем агародчыкаў.

Каля аднаго з такіх дамочкаў, умасціўшыся на вышараваных да васковага бляску масніцах ганку, ляжаў сабачка, зусім малы, на якіх пагардліва кажуць — псючок. Таксама чысценькі, мыты няйначай як увечары, ён быў пад колер падлозе і лаўкам ганку. Таму я адразу і не заўважыў яго. Не ўстрывожыла і псючка маё з'яўленне, ён пазяхнуў, паказаўшы ружовы язычок, і ўтуліў галаву ў лапкі.

Як на тое, сюды прыскочыў задыханы Дзік. Ён, відаць, ужо дасхочу налётаўся, нахлябтаўся вады з рэчкі — морда і лапы былі добра мокрыя — і прыбег далажыцца: я тут. Сабака клаўся доле, усхватваўся, зноў клаўся, словам, выказваў самую непадробную радасць з нагоды нашай сустрэчы.

Але тут разлёгся востры, пранізлівы брэх. Рудзенькі псючок стаў на крывыя лапкі, распраставў грудзіну, гатовы легчы касцямі, а не пусціць небяспеку да свайго дома і сваіх гаспадароў. Напэўна, палічыў нашу прысутнасць за грабежніцкае ўварванне на падапечную яму прастору з нядобрымі мэтамі. Ды, мусіць, і Дзік даўся яму нейкім страшыдлам, а быў ён сапраўды прыстойнага росту, многа вышэй, як у калена.

Хоць мы не выказвалі ніякіх агрэсіўных намераў, пільны вартаўнік брахаў і брахаў. І, па ўсім відаць, брыдка лаяўся на нас па-сабачы.

Дзік відавочна разумеў гэтае абзыванне, ён натапырыў поўсць на хібе і няголасна гыркнуў праз сашчэпленыя пашчэнкі адменных белых зубоў.

Каб не паджыўляць наспяваўшага канфлікту, я крыху адышоўся. Дзік забег наперад і стаў наўпоперак дарогі ў запытальнай паставе: „Ну, што, так і пойдзем?"

Стала зразумела: зрабі я любы крок, скажы хоць злое слова, і з рудзенькага паляціць у паветра чыста вымытая і вычасаная шэрстка, а на жаласнае вішчанне абавязкова выбегуць гаспадары.

Таму я цвёрда забараніў:

— І не думай! — І пачаў сарамаціць: — Па-першае, ён малы, а значыць, яшчэ дурань, па-другое: калі ён звычайны звяга, усё роўна тут яго права, ён на сваёй тэрыторыі. А што зрабіў бы ты, каб на нашым панадворку швэндаўся незнаёмы з сабакам?

Я сеў на лаўку непадалёку і заняўся купленай па дарозе газетай. Туды ж прысунуўся, як не сваімі нагамі, Дзік. Лёг, уткнуўшыся носам у чаравік, і ўздыхнуў.

Звычайна ён уздыхаў над міскай гарачай полпкі — марудна астывае, ліха на яе! Цяжэйшыя ўздыхі пачыналіся пасля вымовы за чарговую правінку, скажам, за разлупленую панчоху лістаношы, не па злосці, праўда, яна прыносіла пах газетнай фарбы, якога сабака страшэнна не любіў. Уздыхалася яму і ад смутку: хацелася пабегчы за кім-небудзь з нас у магазін, а тут не ўзялі. А як возьмеш, калі ён там кладзецца на парог і спыняе гандаль, не пускае пакупнікоў.

Зараз Дзікава ўздыханне азначала штосьці іншае. Магчыма, разгубленасць, — што ж рабіць, той жа не ўпыняецца, брэша, а за што тут лаяцца, ніхто нічога дрэннага яму не ўчыніў. А можа, у сабакі было крыху крыўды і на мяне, на забарону заклікаць да парадку нахабніка.

Псючок, напэўна, разумеў усе перавагі свайго становішча: ён на сваім ганку, а ў сваім двары і трэска памагае. Няйначай нешта падобнае спакмячаў і Дзік: хто ж рызыкне рабіць напад на вартаўніка ў часе службы!

Тым часам мой сабака ўсё ўздыхаў і пазіраў то на мяне, то ў бок неўтаймаванага брахуна.

Каб спыніць узаемнае псаванне сабачых нерваў, я ўстаў, хацеў перайсці на далейшую лаўку. Падхваціўся і Дзік, вільнуў мне хвастом і, угнуўшы галаву, на ўсю сілу прыпусціўся да звягліваага сабачкі.

— Будзе бяды! — мільганула мне думка, аднак адклікаць, спыніць сабаку я не паспеў, ён падбег пад самы ганак...

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

 

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ 3

### Пасылка

Як толькі мы прыўзнялі крышку, перад намі ўстала... хто б, вы думалі? Літара *С*. І так хутка загаварыла, што мы пачулі толькі адзін свісцячы гук. Мы пачалі ўгаворваць яе не спяшацца, выпіць вады і расказаць, што з ёю здарылася і як яна трапіла ў пасылку.

— Супакоілася, — сказала літара *С*. — Сёння субота? Сяджу сёмыя суткі! Спрабавала стукаць, скардзіцца, сварыцца! Стамілася, страціла спакой... Студэнты спаткалі — схапілі, схавалі сюды. Спехам сказалі: свеўкаў суправаджаць — сачыць! Сярод спраў сама склала спісы. Следчым спатрэбяцца. Скрынка — схованка. Складзены стосам. Стужку... Сядайце, слухайце: спярша стаўце *са*, следам — сярэдзіну слова... сачыце.. сем...

Смялей, старайцеся... сплю...

І — заснула. Змучылася, відаць, бедалага. Літара *С* — а ў нас жа аперацыя „А"! Мы пераглянуліся — і раптам усё зразумелі, загаварылі ўсе разам:

— У літары *С* з літарай *А* супрацоўніцтва і сяброўства!

— Сур'ёзная справа!

— Сапраўды, супярэчыць сустрэчы суседзяў — сорам!

— Скемім — спрытна схопім сакрэт самі!

А нашага Галоўнага дэтэктыва смех разабраў:

— Ну, калі вы самі пачалі размаўляць словамі на *С*, то сакрэт раскрыецe. Дык што там за спісы, якія для вас, следчых, прыслалі?

Мы выцягнулі са скрынкі спісы — даўжэзныя спісы слоў. У кожным слове, але запісаны не поўнасцю: у адным — дзве пачатковыя літары са і апошняя а; у другім толькі пачатак — са. Усе словы з сямі літар:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| с | а | | | | | а |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| с | а | | | | | |

Вось чым і будзем мы зараз займацца. Аперацыя „А" прадаўжаецца.

Мы хацелі выкінуць скрынку, але ўбачылі, што на самым дне пад паперай нешта чырванеецца: гэта былі спісы, перавязаныя чырвонай стужкай, пра якія нам казала літара **С**! Пераглядзеўшы іх, мы зразумелі, што яна нам хацела дапамагчы, падказаць, як трэба далей дзейнічаць: нам трэба адгадаць словы, якія абазначаюць:

*невялікі вадаём, від адзення, вадкае паліва, хімічнае ўгнаенне, мясны выраб, невялікую сасну, частку сталявага прыбора, страву, сыравіну для вырабаў народнай прамысловасці, насякомага-шкодніка, горад у Італіі, назву месяца, жаночае адзенне, від змазкі, спецыяліста сельскай гаспадаркі, замяняльніка цукру, паўднёвае дрэва без лісця, другога аўтара твора, медыцынскую спецыяльнасць, пляцоўку для прыёму сонечных ваннаў, байкапісца, востраў на Далёкім Усходзе.*

На гэтым спісы літары **С** канчаюцца. Далей трэба брацца за справу самім.

Ну, вось, закончылі. Вы таксама? Ці доўгія ў вас атрымаліся спісы? У нас — проста бясконцыя, і мы ў каторы раз упэўніліся, якая багатая наша Мова!

### Гэта ўсе яны

Калі мы з'явіліся ў кабінет Галоўнага дэтэктыва, яго там не было. Затое былі дзве дзяўчынкі: адна — вясёлая, з гарэзлівымі вачанятамі, другая — разгубленая, сумная. Першая адразу ж звярнулася да нас:

— Добры дзень! Мы вас чакаем, рады пазнаёміцца. Нас завуць... — але наш начальнік, Галоўны дэтэктыў, увайшоўшы, перапыніў яе:

— Ну, што, пазнаёміліся? Гэта і ёсць тыя дэтэктывы, што паспяхова закончылі аперацыю „А".

— Не зусім закончылі, — усміхнулася гарэзлівая дзяўчынка, — іх чакае яшчэ адна задача.

— Вось і цудоўна! — сказаў Галоўны.

— Якая ж яшчэ задача падрыхтавана для нашых дэтэктываў?

— Перш за ўсё — нашыя імёны. Яны пачынаюцца і канчаюцца літарай **а**. Маё *імя*, — сказала дзяўчынка з гарэзлівымі вачамі, — нагадвае вам *мерапрыемства, на якім заўсёды бываюць і пераможцы, і пераможаныя*, але не бывае — не павінна быць! — ворагаў!

— А маё *імя*, — падхапіла другая дзяўчынка, — *нагадвае вам назву месяца, толькі не на беларускай мове*. А літар у нашых імёнах — па дзевяць. І яшчэ: мы дамовіліся папрасіць вас пашукаць словы, якія адпавядаюць гэтай схеме. Хто больш?

Вось і закончана аперацыя „А". Тыя, хто ў ёй удзельнічалі, мелі магчымасць атрымаць перамогу над невядаданнем, над нецярплівасцю, няўменнем адшукаць адзіна магчымы варыянт, над лянотай, нежаданнем настойліва дабівацца пастаўленай мэты...

*(працяг у наступным нумары)*

*З вучнёўскай творчасці*

# КНІЖКА

Хто ж сябра твой
Наймілейшы,
Найцікавейшы?
Хто вучыў цябе
Ад пачатку чытаць
І першыя
Беларускія
Літары пісаць?
Вядома,
Кніжка твая,
Беларуская.

Яна перад табою свет адкрывае,
У падарожжа цябе запрашае.
І ты, як капітан, параходам кіруеш,
І з кніжкаю цэлы свет правандруеш.

І так, мой мілы дружа,
Кніжка, як у агародніка ружа:
Калі яе не будзе паліваць,
Яна яму не будзе заквітаць.

**ЮРКА БУЙНЮК,**
**Маліннікі**

## ЛЯЦЯЦЬ ПЕРАЛЁТНЫЯ ПТУШКІ

Пералётныя птушкі Беларусі, а іх 162 віды, адлятаюць на зімоўку ў жніўні — другой палове лістапада. Штогадовыя масавыя міграцыі птушак з месцаў гнездавання на месцы зімоўкі і наадварот называюцца сезоннымі міграцыямі. Яны здзіўляюць сваімі маштабамі і складанасцю. Кожны від птушак робіць свае пералёты ў пэўныя тэрміны. Адлегласць пералётаў і іх шляхі розныя.

Дзе ж зімуюць нашы пералётныя птушкі? Даведаліся аб гэтым вучоныя пры дапамозе кальцавання. Шпакі, напрыклад, у час асенніх пералётаў дасягаюць у пачатку кастрычніка Бельгіі, у канцы месяца — Францыі і Італіі, а ў першыя дні лістапада — Іспаніі. На зімоўцы яны сустракаюцца на паўночным усходзе і поўдні Еўропы, а таксама ў Тунісе, Алжыры, Марока. Дразды ляцяць на зіму на ўзбярэжжа Міжземнага мора (Францыя, Італія, Алжыр). Круцігалоўкі зімуюць у Італіі. Буслы, чаплі, ластаўкі, стрыжы, што гняздзяцца ў Беларусі, на зіму адлятаюць у Афрыку, Конга, Радэзію, Эфіопію. Шэрая мухалоўка знойдзена на зімоўцы ў Партугаліі, гракі — у Бельгіі, Галандыі, Германіі, а маленькая пеначка — нават у Індакітаі.

Яшчэ зусім нядаўна на тэлеграфных правадах сядзелі сотні ластавак. Цяпер яны ў дарозе. Зімуюць пераважна за 2000 кіламетраў ад месц гнездавання, у краінах заходняй Еўропы.

Бясконцым патокам, незлічонымі чародамі, днём і ноччу, раніцай і вечарам пралятаюць крылатыя падарожнікі. Большасць птушак ляціць днём. Іваалга, зязюля, валасянка адлятаюць уначы. Гусі, гагары — уначы і ўдзень.

Птушкі кожнага віду ляцяць па-рознаму. Шматслойнай чарадой ляцяць шпакі. Быццам цёмныя хмары, пралятаюць вялікімі шчыльнымі чародамі берасцянкі. Невялікімі групкамі і чародкамі адпраўляюцца ў дарогу мухалоўкі, сітаўкі, пеначкі і іншыя дробныя насякомаедныя птушкі. Услед за імі ляцяць сіваваронкі, удоды, івалгі. Веранцай або клінам ляцяць гусі, косым шнурам — лебедзі. Але не ўсе птушкі ляцяць чародамі. Паасобку ляцяць зязюлі, ястрабы, лелякі.

Птушкі ў час пералёту арыентуюцца па сонцу, зорках, напрамку ветру, далінах рэк, берагавой лініі і інш.

**А. Курскоў**

*Віктар Швед*

**НАТАЛЛЯ І ХВАЛЯ**

Мора подых свежы
Ловім на ўзбярэжжы.
Праз хвіліну ляжам
На нагрэтым пляжы.



Ўзбураная хваля
Збіла з ног Наталлю,
І марской вадзіцы
Прыйшлося напіцца!

**Фота аўтара**

**Адказ на „Падарожжа..."**

**Пасылка.** *Саксаул, салідол, сааўтар, садавод, сарафан, салярый, сацінет, сахарын, сатырык, санітар, сакавік* і інш. *Сажалка, сарочка, салянка, салярка, салетра, сасіска, сасонка, салонка, сапілка, саранча, сабачка, Сарэнта, Сакмара* (рака) і інш. **Гэта ўсе яны.** **Імёны:** *Алімпіяда, Аўгусціна.* **Словы:** *абанентка, авансцэна, авіябомба, авіяпошта, аўстрыйка, аўтаручка, Адрыятыка, анеўрызма, антонаўка* і інш.

*Іван Карэнда*

# ЗАГАДКІ

Дзіўны, смешны карагод
Бачыў я пад Новы год:
Карагод вадзілі мухі —
Дзеткі маці-завірухі.

* * *

Кожны год да нас прыходзіць
І парадак свой наводзіць.
Белым чыстым палатном
Засцілае за акном
І надворак, і дарогу.
Потым знікне, і надоўга.
А як толькі Дзед Мароз
Першы раз шчыпне за нос,
Трэба ведаць — нездарма:
На парозе зноў .....

* * *

Над зямлёю — жоўты мячык
З залатымі ніткамі,
Ды зусім-зусім не скача...
Што там хмаркі выткалі?

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

Жонка гаворыць мужу:
— Учора на банкеце ты ўвесь вечар нёс такую лухту! Спадзяюся толькі: ніхто не заўважыў, што ты быў цвярозы!

* * *

Сусед — суседу:
— Уяўляеш, нашы тараканы з вашымі ваявалі. Перамаглі іх і ўсіх да нас у палон прывялі!

* * *

— Я дэманструю мадэлі і мяняю адзенне па пяць разоў у дзень, — выхвальваецца манекеншчыца.
— От, дзіва! — кажа хлапец. — Мая сястра робіць гэта па дваццаць разоў на дзень.
— Твая сястра? А колькі ёй год?
— Тры месяцы.

* * *

— Я купіла вельмі недарагую, але прыгожую шлюбную сукенку.
— Зайздрошчу табе.
— Каб яшчэ ў тым магазіне прадавалі жаніхоў...

* * *

Муж — жонцы:
— Я дзіўлюся: ад чаго ў нашага сына такі глыбокі розум.
— Вядома ж, ад цябе. Мой — на месцы.

* * *

— Дачушка, сёння ў нас будуць госці, яны з Англіі. Я цябе вельмі прашу: не бэсці ты пры іх нашы парадкі!
— Ды кінь, мама, адкуль у нас парадкі?

* * *

— Кума, як ты думаеш: што раней было — яйка ці курыца?
— Э, куме, раней усё было!..



 

**— Маладому пакаленню ў Litарадку здаецца, — кажа Лявон Тарасэвіч, старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, — што жыццё коціцца дзесьці ў іншым месцы, а тут, каля сваёй хаты, нічога няма і не было...**

# У Гарадку дакопваюцца

Пасля некаторых складанасцяў, ці лепш сказаць: бюракратычна-фармальнай гульні (чытай „Ніву" ад 18 верасня г.г.), пачаліся ў Гарадку раскопкі Замкавай гары. Праводзяцца яны ў рамках шырэйшай праграмы — „Асадніцкія перамены на схіле сярэднявечча і ў пачатках новай эпохі паміж Нарвай і Нёманам". Праграма ажыццяўляецца супольна з беларускімі даследчыкамі, якія будуць весці раскопкі ў раёне Берастаўіцы (у мінулым Берастаўіцы Мураванай). Кіраўніком даследаў па гэты бок з'яўляецца д-р Юзаф Марошак, навуковымі дарадчыкамі Лешак Кайзер (Лодзінскі універсітэт), Марыян Глосэк (Інстытут археалогіі і этналогіі ПАН) і Станіслаў Александровіч (Універсітэт імя М. Каперніка). Рабочай групай у Гарадку кіруе мгр Барбара Чарнэцкая.

— Калі ідзе пра дослед сярэднявечча і ранняга перыяду новай эпохі, — кажа яна, — можна сказаць, што гэта дэфіцытная тэма, не толькі на гэтам абшары, але і ўвогуле ў Польшчы. Доследы такія праводзяцца ўсяго ад дзесятка з нечым гадоў — гэта маладая ў нашай краіне галіна археалогіі. Калі ідзе пра наш рэгіён — яна амаль і некранутая. Адгэтуль узялася ідэя доследу таго перыяду на нашай памежнай тэрыторыі. Гістарычныя крыніцы, з аднаго боку, надта ж абмежаваныя. А з другога — браке нам крыніц матэрыяльнай культуры. Дослед наш будзе мець комплексны характар: удзел у ім прымуць гісторыкі, археолагі, антраполагі...

Паводле Б. Чарнэцкай пакуль цяжка вызначыць характар і вартасць знойдзенага на Замкавай гары матэрыялу. Несумненна, аднак, што асадніцтва на абшары Замкавай гары было ўжо на схіле сярэднявечча. Пацвярджаецца гэта, дарэчы, існуючым археалагічным матэрыялам. Далейшая раскопкавая праца ў Гарадку, лічыць Б. Чарнэцкая, павінна дапамагчы перш за ўсё ў вызначэнні храналогіі перыяду, які з'яўляецца прадметам доследу. У выпадку Гарадка справа крышку ўскладняецца, таму што быў ён у пачатку васемнаццатага стагоддзя спалены. У сувязі з гэтым пласты, якія археолагі цяпер адкрываюць, адносяцца да таго пажару — усё, чаго не разрушыў агонь, прадметы з металу перш за ўсё, былі забраныя сучаснымі. Прадметаў арганічнага паходжання слядоў амаль і не засталося.

— Мы цяпер знаходзім ўсяго толькі рэшткі, — кажа Б. Чарнэцкая. — Самым каштоўным матэрыялам з'яўляецца для нас кераміка. Знайшлі мы яе ў вялікай разнастайнасці — гаспадарчы і настольны посуд, кафлі (перад усім печныя, але і аздобныя, з раслінным арнаментам). Акрамя гэтага знайшлі мы тры манеты — на адной з іх захавалася дата, 1666 год. Бітая яна была ў Вільні, на манеце выява Пагоні, функцыянавала яна на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Шмат трапілася таксама фрагментаў шклянога посуду, а таксама матэрыял звязаны з канструкцыяй збудаванняў — пальцовая цэгла, адбіткі жэрдак у гліне.

Да нашага часу захаваліся два дакументы, якія адносяцца да Гарадка — інвентары з 1670 і 1815 гадоў, са спіскам аб'ектаў у Гарадку. Археолагі спадзяюцца тут на канфрантацыю знойдзенага матэрыялу з гэтымі крыніцамі. Пакуль аднак не могуць адказаць, ці знойдзеныя сляды будоўляў адносяцца да тых апісаных у інвентары, ці можа гэта рэшткі новых збудаванняў, якія ўзніклі ў месцы тых зафіксаваных інвентаром.

— Раскопкі ў Гарадку, — сказаў Лявон Тарасэвіч, — праводзіліся і раней, у васьмідзесятыя гады, але не трапілі яны на нічога канкрэтнага. Было знойдзена крышку керамікі, адна падэшва і, бадай, гэта ўсё. У гэтым жа годзе, ужо на працягу двух дзён было вядома, што матэрыялу будзе шмат. Трэба тут аднак памятаць, што на сённяшні дзень раскопкі вядуцца ў другараднай частцы гарадзішча, не рэпрэзентацыйнай. Калі сабе ўявіць, што на працягу двух тыдняў можна было столькі ўсяго выцягнуць з зямлі, дык стварае гэта добрую перспектыву для доследу у іншых месцах. Справа застаецца толькі ў грошах дзеля гэтага доследу і добрай волі ўладаў у наступных гадах. Тое, што цяпер робіцца ў Гарадку мае выключна ўступны характар — на гэтай аснове ўзнікне праект сур'ёзных раскопкаў у Гарадку. На шчасце, пытанне археалагічнага доследу ў Гарадку не вырашаецца ўжо ў катэгорыях палітычнай дамінанты той ці іншай дзяржавы. Сёння засталося ўжо толькі адно пытанне: ці грошы, якія трапляюць у Беласток на даследчыцкія праграмы, трапяць таксама ў Гарадок. Шмат тут будзе залежаць ад праекта.

Даўняя гісторыя з нашага пункту гледжання пазбаўлена працягласці. Выяўляецца яна нам, нібы кадры парванай кінаплёнкі. Таму вельмі часта ўсякая інтэрпрэтацыя, якая дбае пра захаванне той жа працягласці, уздзейнічае на чалавека перш за ўсё як казка. Малады чалавек, лічыць Л. Тарасэвіч, жыве ў перакананні, што жыццё праходзіла дзесьці інакш, толькі не побач хаты яго і бацькоў. Асвятленне і прасвятленне тых нешматлікіх кадраў, на што дазваляе сучасная археалогія, спрые рэальнаму прышчапленню чалавеку пачуцця пашаны для мінуўшчыны сваёй і сваёй мясцовасці. Выяўленне археолагамі і гісторыкамі тых ці іншых фактаў з мінулага ўводзіць — у гэтым выпадку Гарадок — у кантэкст агульнадзяржаўнай гісторыі і прыдае мясцовасці канкрэтнае (дакранальнае) у той жа гісторыі значэнне. Л. Тарасэвіч не скрывае, што дзеянне, накіраванае на прышчапленне маладому пакаленню ў Гарадку такіх пачуццяў, з'яўляецца найгалоўнай мэтай Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі.

Уступны этап раскопак у Гарадку завершыцца ў канцы верасня. Плануецца выстаўка знаходак.



**Аляксандр Максімюк**
**Фота Лёніка Тарасэвіча**

---

*Новыя вершы*

*БАРЫС РУСКО*

### Растратчыца

Каханне — не на вынас:
на бескарыслівы пляж асалоды,
на прысягі латок,
на паказ у галерэі актаў.
Каханне не на прывязі слоў,
не гульня ў прыгод кабарэ,
не сядзіць у гарсэце ўстанаўленняў.
Каханне — шэдэўр пісаны крыкам
пакутуючай радасці.
— Без рэпрадукцыі, растратчыца
босая!

### Развітанне

Быў развітальны вечар.
І больш вяртанняў няма.
Вузкай шчылінай праўды
скалечаныя пранікаюць склады.
Як буханка трэснутая хлеба
асеў у маёй памяці Твой крык.
Выняты цуглі. Тысячу вобразаў,
узятых з Цябе, гуляла свой матч.
Аж згасла свечка.

### Слова

Жэст — у моцы пачатку,
пачатак — ва ўнушэнні прасторы,
прастора — у сімвале ўраўнення,
ураўненне — у велічыні зместу,
змест — у праўдзе часу,
час — у шолаху задумы,
задума — у фарбах верша.
Пачуцці паміраюць перад
мнагаколлем Слова.

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

### Чаму я меланхолік

Калі зямля высыпае з кошыка
травы, вятры і кветкі,
сеюцца людзі заўжды недаслыя,
інакш сказаўшы — паэты.

Пасля ідуць зялёнымі сцежкамі,
з доўгім лірычным алоўкам,
малююць бровы сінім валошкам
меланхалічнымі вершамі.

Дык няхай не пытаюць ніколі
твае вочы, бы водар крынічны,
чаму я меланхолік,
і чаму лірычны.

*МІРА ЛУКША*

### сустрэча

лісток ад роднага дрэва самоты
прыліп да мокрай шчакі

сцяна тлуму раздзяліла нас
у скразняку дарог

### ростань

гэта я цябе знайшла
гэта я цябе пакіну
аслеплая ад болю
вядуння

### стыгматы

я падала табе руку
ты даў мне купленую ружу
мая далонь краваточыць з тае пары
стыгматамі распятае любові веры

маю надзею:
не прыйдзецца мне падаць
руку чалавеку
на прывітанне

# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ СШЫТАК

На пачатку верасня з'явіўся на чытацкім рынку першы нумар „Беларускага гістарычнага сшытка"*) („Białoruskie Zeszyty Historyczne"). Выдала яго Беларускае гістарычнае таварыства. „Сшытак" выйшаў на польскай мове. Большасць матэрыялаў у ім прысвечаная беларуска-польскім адносінам у XX стагоддзі. Апрача артыкулаў змешчаны там крыніцы для даследавання навейшай гісторыі, між іншым, факсіміле падпольнай газеты „Беларускі партызан" ад 1920 г., біяграфічныя матэрыялы і рэцэнзіі.

Змест „Сшытка" — гэта вынік шматгадовых даследаванняў маладых беларускіх гісторыкаў з Беласточчыны, якія год таму стварылі сваю арганізацыю — згаданае Беларускае гістарычнае таварыства.

Хто і што тады піша ў першым нумары „Сшытка"? Вось пералік важнейшых тэмаў:

— Ірэна Матус — пра бібліятэкі і крэдытныя таварыствы на Падляшшы на пачатку XX стагоддзя;

— Яўген Мірановіч — пра беларуска-польскія адносіны ў 1918—1925 гадах;

— Юры Каліна — пра Брацтва беларускіх сялян у 1921—1922 гадах;

— Веслаў Харужы — пра дзейнасць Грамады на Беласточчыне;

— Яўген Вапа — пра ўзнікненне кааліцыі беларускіх арганізацый Цэнтрасаюз і ўдзел яе ў парламенцкіх выбарах у 1930 годзе;

— Славамір Іванюк — пра адміністрацыйную адзінку ў структуры Прэзідыума Ваяводскай рады ў Беластоку ў 1950—1953 гадах, якая займалася школамі з няпольскай мовай навучання;

— Аляксандр Карпюк — пра беларускае грамадска-культурнае таварыства ў 1956—1970 гадах.

Змест паасобных артыкулаў напісаны са спасылкай на крыніцы мае аднaзначна навуковы характар. Дробныя памылкі, якія ўзніклі з-за адсутнасці карэктарскага нагляду, амаль не заўважальныя для звычайнага чытача.

Можа толькі здзівіць, чаму беларускія гісторыкі пішуць беларускую гісторыю на польскай мове. Рэчаіснасць аднак у нас такая, што чытача навуковай літаратуры лягчэй знайсці пішучы на „дзяржаўнай" мове.

„Сшытак" з'яўляецца таксама платформай дыскусіі і палемікі з польскімі гісторыкамі, якія мінуўшчыну на беларуска-польскім памежжы прадстаўляюць часам не ў форме навуковага аналізу, а лірычнай замалёўкі, легенды ці міфа.

Хаця першы том можна лічыць удалым, аднак не сведчыць яшчэ гэта пра інтэлектуальны патэнцыял беластоцкіх беларускіх гісторыкаў. Трэба пачакаць на наступныя сшыткі, каб даць нейкую справядлівую ацэнку. Пачатак ужо зроблены. Сябры Беларускага гістарычнага таварыства задумалі выдаваць два „Сшыткі" ў год і да таго яшчэ паасобныя манаграфічныя працы. Найважнейшым бар'ерам у рэалізацыі гэтых мэтаў будзе знайсці фінансавыя сродкі. Продаж некалькіх соцень паасобнікаў не верне коштаў падрыхтоўкі публікацыі да друку і самога друку. Таму кожнае выданне Беларускага гістарычнага таварыства ў нашых умовах будзе чымсьці незвычайным.

**МЯ**

P.S. „Сшытак" можна набыць у рэдакцыі „Нівы".

---

**) Białoruskie Zeszyty Historyczne, Białystok 1994, s.195.*

# ІКОНЫ

**Частка VI**

Сёння прадоўжу выказванне Язэпа Казберука на тэму іконаў, якое пачуў я ў 1965 годзе.

„Калі ты мяне пытаеш канкрэтна пра іконы, то я табе раскажу канкрэтнае здарэнне, каторэ перавярнула ўверх нагамі мой падыход да гэтае справы.

Я ў часе акцябрскае рэвалюцыі знайшоўся ў Сібіры. І што ты думаеш? Папаў пад мабілізацыю і знайшоўся ў калчакоўскай арміі. Папаў у санітарную каманду і вывалакаў раненых з першае лініі фронту, а пасля транспартаваў іх у лазарэты.

Так яксе злажылася, што я папаў у лазарэт, каторы знаходзіўся можэ кіламетраў восемдзесят ад фронту. Быў гэта даволі вялікі горад. Пад лазарэт мы занялі мясцовую гімназію. Калі ўсе комнаты, а было іх можэ дваццаць, былі абстаўлены ложкамі, главны доктар паклікаў мяне і сказаў: „Казбрук, возьми мешок, пойди в мастерскую к иконописцам и принеси от них двадцать иконок. Оплату за иконки они уже получили".

Даў мне гэты доктар адрэс і я пайшоў. Калі прызнацца, то я ніколі ў масцерской іконапісцаў не быў і таму пайшоў туды з вялікаю цікавасцю. Вядома, што наш народ адносіцца да вякоў да ікон з уважэніем і таму я не толькі з уважэніем але і крыху са страхам ждаў спаткання з тымі людзьмі, каторы малююць іконы. Я быў перакананы, што іду ў манастыр і што гэтымі іконамі займаюцца божыя людзі-манахі. Вельмі я здзівіўся, калі пабачыў, што масцерская была памешчана ў прымітыўным доміку з абарванаю аканіцаю. Калі я ўвайшоў у сярэдзіну, то пабачыў там якогась здаравеннага забулдыгу, каторы хутчэй змахіваў на жуліка чым на манаха. Даведаўшыся, чаго я прыйшоў, забулдыга заявіў: „Пойдём, солдатик, к моим богомазам, посмотрим: выполнили они военный заказ или не выполнили?".

Пайшлі цёмным калідорам і ўвайшлі ў якуюсь даволі вялікую комнату. А ў гэтай комнаці, мой Божа, хаос, беспарадак, смурод і голмаш такі, што свет не бачыў. А пры верстаках сідзіт чалавек восем гэтых цэлых іканапісцаў, а выгляд у іх як у бандзітоў. Зрэштаю не сідзят яны пры гэтых верстаках, а толькі стаят паміж імі і п'ют водку. П'ют, страшна сварацца і дзікаругаюцца. Што мяне найбольш уразіло? Гэта тое, што мацэрыліся ў Бога мацi. Ты ж ведаеш, што і да сегодня ў нас на вёсцы ніхто так не мацерыцца, а там мацэрыліся. І можа ў гэтым не было б нічого дзіўнага, бо такую ругань у арміі я чуў сотні разоў, калі б не тое, што гэтые людзі малявалі іконы і што гэтымі іконамі была завалена ўся комната. І што найгоршае, бутылка водкі стаяла на іконе і лежаў селедзец.

Заказаныя іконы я дастаў, палажыў іх у мяшок, занёс у лазарэт і развесіў на сценах. Але ты ведаеш, што са мною сталасё. Іконы перасталі для мяне быць тым, чым былі для мяне раней. Як тут сказаць? Можна сказаць, што зваліліся з іх нібы свешчэннасці. І хоць з таго часу прайшло ўжэ больш як сорак пяць лет то я, як толькі гляну на любую ікону, то бачу гэту сібірскую масцерскую і тых п'яных іконапісцаў, каторы такім дзікім образом мацерыліся, стоячы каля Багародзіцы, чудатворцаў, святых Грыгор'яў і Ісусаў Хрыстоў.

Яно ведаю, што ў каждой хаці знаходзяцца ў нас іконы і што яны ў пэўным сэнсе памагают людзям жыць. Аднак не рэдка думаю сабе аб тым, што можа маем тут дачыненне не са святасцю, але з богаборством. Можэ быць і такое, што чалавек не мае права рысаваць ані Бога, ані святых лічнасцей, бо ніхто з людзей не знае як гэты лічнасці выглядают. Але можна на гэто гледзець і па-другому: трактаваць іконы як сімвалы тых таямнічых сіл, каторы асацыююцца з Богам і святымі. Так я гляджу на справу іконаў. А можэ хтось іншы глядзіт па-другому?".

**Алесь Барскі**

# ПАДЗЯКА

Удзельнікам і гасцям Фестывалю нацыянальных меншасцяў у Гданьску: Мацею Канапацкаму, Лене Глагоўскай, Міхасю Куптэлю, Ганне Сурмач, Касі Мацкевіч, Лідзіі Чурак, Аляксандру Юзафовічу, Яраславу Юзафовічу, Агаце Глагоўскай, Лідзіі Драль і калектыву „Белы сон" выказваем сардэчную падзяку за памяць і найлепшыя пажаданні.

**Рэдакцыйны калектыў „Нівы"**

# Прападобны Раман Сладкапевец

14 кастрычніка (1.10 па старому стылю), разам са святам Пакрова Прасвятой Багародзіцы, Царква ўшаноўвае таксама памяць Святога Рамана Сладкапеўца. Паходзіў ён з Сірыі і змалку жыў набожна і богабаязна. Пачаткова быў ён панамарам *) у царкве ў Бейруце, але потым, пераехаўшы ў Канстанцінопаль, служыў у царкве Святой Сафіі. Вечарамі падаваўся ён ва Улахерны *), дзе часта цэлыя ночы праводзіў на малітвах. З юнацтва ўвесь ён устрымнанае і бязвіннае жыццё, прытрымоўваўся ўсіх постаў і многа маліўся. Як просты і неадукаваны чалавек не спяваў ён на клірасе. У пакоры, аднак, поўны дабрыні, выконваў свае абавязкі. Поўным аддансці Богу жыццём Раман прыцягнуў да сябе ўвагу патрыярха Яўфімія, які палюбіў яго і прад'яўляў яму многія ласкі. Іншыя царкоўнаслужыцелі — чытары і псаломшчыкі — зайздросцілі яму і ненавідзелі яго, часта смяяліся над ім, надакучвалі і рабілі розныя вераломныя ўчынкі. Аднойчы, падчас прысутнасці ў храме імператара і патрыярха, схапілі яны Рамана і ўвапхнулі на амвон *), каб ён таксама спяваў. Было гэта ў час набажэнства напярэдадні Раждаства Хрыстова. Раман, які не быў азнаёмлены з царкоўнымі спевамі, адчуваў прыніжанасць і вельмі расхваляваўся. Калі храм апусцеў, ён доўга плакаў у самоце і маліўся перад іконай Прасвятой Багародзіцы. Вярнуўшыся позняй ноччу дадому, ён, перамучаны, хутка заснуў. У гэтую ноч Раману з'явілася Багародзіца з вялікім пергаментным рулонам і загадала, каб Раман адкрыў рот і з'еў яго. Прачнуўшыся раніцай, адчуў ён нявыказаную слодыч і духовую радасць і ў той самы момант усвядоміў сабе, што яму былі дадзены ўмельства разумець пісанае слова і дар песнапення. Ён ведаў, што Прасвятая Багародзіца адкрыла яго розум у гэтым напрамку і пачаў усхваляць Яе са слязамі ў вачах. Дзякаваў ён за дар, якога сам не дабіўся б на працягу многіх гадоў.

Падчас Усяночнага дбання, калі трэба было заспяваць песні ў гонар свята, Раман выступіў і заспяваў цудоўным голасам песню для ўшанавання Раждаства Хрыстова „Дева днесь пресущественнаго рождает...". З таго часу стала яна кандаком гэтага свята.

щественнаго рождает...". З таго часу стала яна кандаком гэтага свята.

Вернікі ў храме не маглі надзівіцца словам песні і анёльскаму голасу яе выканаўцы. Не маглі яны зразумець, як гэта здарылася, што просты, невучоны панамар змог так прыгожа заспяваць. Раман не скрываў таго, што здарылася і расказаў, як атрымаў ласку ад Прасвятой Дзевы Марыі. Тады тыя, хто насміхаліся і дакучалі, кінуліся яму ў ногі і сталі прасіць прабачэння. Неўзабаве патрыярх рукапалажыў яго ў сан дыякана, а з ягоных вуснаў паплылі ракою поўныя мудрасці словы царкоўных песень.

Прападобны Раман Сладкапевец памёр пад канец V стагоддзя. Пакінуў ён па сабе многа канонаў і незлічоную колькасць царкоўных песень. Ён склаў звыш тысячы кандакоў *) як у гонар Гасподніх і Багародзічных святаў, так і для ўшанавання памяці святых. Званне Сладкапевец атрымаў ён з-за багацця думак, а таксама з-за паэтычнага натхнення і глыбіні пачуццяў выказаных у яго песнях.

**С. Н.**

**Тлумачэнні:**

*панамар* — чалавек, які галоўным чынам займаецца сачэннем за чысцінёй храма і святых месц; паводле царкоўнага ўстава да яго абавязкаў належала званіць на набажэнствы, запальваць і гасіць свечкі, а таксама рыхтаваць і падносіць кадзіла.

*Улахерны* — месца ў заходняй частцы Канстанцінопаля, вядомае сваімі храмамі, асабліва царквою Прасвятой Багародзіцы, пабудаванай пры імператары Льве I Вялікім (457—474). Гэта пры ім былі перанесены з Палесціны ў храм святыя рызы Божай Маці. У ім захоўваецца таксама амафор (які Багародзіца насіла на галаве) і частка пояса.

*амвон* — сярэдняя частка салеі (узвышанага месца перад іканастасам), з якога святар чытае Евангелле і кажа пропаведзь.

*кандак* — кароткая літургічная пахвальная песня ў гонар свята або святога, у якой змяшчаецца асноўная думка, разгорнутая ў самой багаслужбе.

# Усё праваслаўнае манаства



— Манастыр узнікае на камені веры. Манахі, якія заснавалі супрасльскі Благавешчанскі манастыр, былі адораныя вялікай ласкай і харызмай, — разважае сёння айцец Гаўрыіл *(на здымку сядзіць з левага боку)*. — У пачатку быў манастыр на ўскраіне пушчы і ўсё. У сучасны момант знаходзіцца ён у цэнтры горада, таму і нельга суаднасіць колішняе манастырскае жыццё з гэтым сучасным. Паўсядзённая мітусня даходзіць і ў нашы сцены. Нязменнай засталася напэўна адна справа — манастыр не можа існаваць без глыбокай веры.

Манах — гэта чалавек, які жыве іншым жыццём, не толькі ў духоўным вымярэнні.

Без пятнаццаці шостая манах ўстае са спачынку; да паловы сёмай мае час для асабістых малітваў у келлі. Пасля іх манах павінен з'явіцца на агульную малітву ў царкву. А сёмай пачынаецца Літургія. Пасля яе манах снедае — але толькі ў час, калі няма посту. У час посту адсутнічае таксама абед, а вячэра, як адзіная пара для цялеснага падмацунку, складаецца са строга выдзеленай порцыі ежы. У даабедні час манах займаецца працай і абавязкамі. Складаюцца на іх усялякія заняткі — адзін праводзіць сустрэчы з людзьмі, іншыя займаюцца катэхізацыяй моладзі, іканапісам, парадкаваннем манастыра. Абед (калі ў парадку дня) звычайна пачынаецца а другой гадзіне. Далей — ізноў абавязкі і даканчэнне ўсякіх, распачатых у гэты дзень работ. Вячэрня пачынаецца перад шостай вечарам і, часамі, цягнецца да паловы дзявятай.

— Можна сказаць, што ў наш час адбываецца росквіт манастырскага жыцця, — дадае айцец Гаўрыіл. — Яно адраджаецца. Аб сіле ўздзеяння Царквы на вернікаў вырашае ўзровень якраз манастырскага жыцця. Трэба тут, аднак, абавязкова сказаць, што ў сучасны момант жыццё гэта пазбаўлена няспыннасці, так характэрнай для ранейшага часу. Даводзіцца адбудоўваць духоўнае правадырства.

Айцец Гаўрыіл, у прыватнасці, займаецца лячэннем зёлкамі. Колькасць людзей, якія наведваюць супрасльскі манастыр у лячэбных справах, неабмежавана. Для наведвальнікаў выдзелена серада. Сустрэчы праводзяцца перад абедам, паміж дзевятай і адзінаццатай, а пазней — пасля Акафіста.

— Бывае, што прыедзе чалавек дзесяць, а іншым разам і шэсцьдзесят, — кажа айцец Гаўрыіл. — Было і сто. З Гайнаўкі, аднаго разу, прыехаў поўны аўтобус. Усе яны, вядома, маюць права паспадзявацца, што будуць прыняты. Прашу я ў гэтым месцы спагады за тое, што няма пакуль адпаведных умоў для правядзення такіх сустрэч. Як прынцып, усе гэтыя людзі, якія прыязджаюць параіцца ў справах сваіх фізічных нямогласцяў, скідаюць перада мною і свой духовы груз з душы. Да кожнага трэба тут падысці індывідуальна, зразумець, параіць. Заўсёды, калі іду на сустрэчу з людзьмі, не ведаючы, колькі іх гэтым разам прыехала, спадзяюся на Заступніцу нашага манастыра, што Яна пашле мне сілу ўсіх іх прыняць і кожнаму даць той духовы падмацунак, на які ён спадзяецца.

**Аляксандр Максімюк**
**Фота з архіва „Часопіса"**

**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**

# „МЕРСЕДЭС"

У апошні час муж бурчыць на мяне найчасцей па дзвюх прычынах. Першая — калі пачынаю ўспамінаць, як там было, у той Амерыцы — а то ў іх так, а то ў іх гэтак. Зайздросціць?!! Не дзіўлюся, кажа, што нашага суседа ў Плюцічах калісь „японцам" празвалі. Да канца яго доўгага жыцця (а жыў амаль сто гадоў) гэта мянушка ад яго не адстала. Але нават не таму, кажа, „японцам" ён стаў, што на руска-японскай вайне ў 1905 годзе ваяваў, а таму, што ўвесь час пра японцаў расказваў!

Ну, і ёсць яшчэ другая прычына яго раздражнення. Учора ў Супраслі знерваваўся не на жарты, калі мой самаход пайшоў зігзагам, бо я загледзелася на новую прыгожую вілу. Калі так падабаецца, дык затрымай, кажа, машыну, стань перад гэтым домам на калені і памаліся!

Добра яму так гаварыць, а што я зраблю, калі не магу ўстрымацца. Люблю прыгажосць у кожнай яе праяве. Што табе, працягвае муж, да чужых хат ды замежных самаходаў? Мець з таго нешта будзеш ці што! Усё будзе прыглядацца, цмокаць ад захаплення, быццам бы гэта яе было...

Я і сама ведаю, што гэта не маё і нічога падобнага маім не будзе. Ні з навукі, ні з пісання сёння хлеба есці не будзеш. Ну, можа, на хлеб яшчэ хопіць, але з маслам ужо будуць клопаты. А ўсё-такі люблю паглядзець на нешта прыгожае.

* * *

Якраз палівала я вазоны на вакне, калі перад самым нашым пад'ездам затрымаўся чорны, бліскучы лімузін. Я глянула з зацікаўленнем: быў гэта „Мерседэс" з адчыненым уверсе, на даху, люкам. Не кабрыялет, але добры на спякоту.

„Хто ж гэта такі прыехаў?" — падумала я і так стаяла ў вакне, чакаючы, калі людзі выйдуць з самахода. Але яны не выселі і не пайшлі наверх. Сядзелі ў машыне і некага чакалі. Відаць, дамовіліся па тэлефоне і не было патрэбы выходзіць з утульнага „Мерседэса".

За рулём сядзеў мужчына сярэдніх гадоў у каляровай трыкатажнай кашулі. Спераду на ёй, быццам на дошцы гонару, значыліся тры вялізныя літары: „USA". Побач з чалавекам сядзела даволі элегантна апранутая, паўнаватая жанчына ў шэра-зялёнай (мо нават замежнай) сукенцы. На заднім сядзенні круціўся няўрымслівы падлетак гадоў пятнаццаці.

„Да каго ж гэта яны прыехалі?" — ізноў мільганула ў маёй галаве думка. Не ведала я, што чакае мяне такі цырк.

Панечка, відаць, не думаючы, што нехта можа бачыць іх з вакна як на далоні, разваліласяна сядзенні, як у хаце на канапе. Адпачывала. Праз момант усадзіла ўказальны палец у вуха і пачала ім там заядла калупаць. Нешта ў яе не выходзіла, а мо палец быў затоўсты, і яна, незадаволена скрывіўшыся, выцягнула яго з вуха.

Неўзабаве яна ізноў калупнула ў вуху, на гэты раз мезенцам, відаць, так было зручней. Доўга трэсла пальцам у сярэдзіне. Мусіць, моцна ёй свярбела.

Задаволіўшыся нарэшце, жанчына дала адпачыць вуху і пачала паволі выцягваць бруд з-пад пазногцяў правай рукі пазногцямі левай. Сядзела так і чысціла — то з правай рукі ў левую, то ізноў з левай — у правую. Скончыўшы гэту работу, яна старанна размазала бруд, абціраючы рукі адна аб другую — ну, не магла ж яна кінуць смецця на падлогу такой цудоўнай машынкі!

Усё! Пакапаўшыся ў вялікай сумцы, жанчына выцягнула з яе маленькую сумачку, у якой наогул носяць касметыку. Ну, зараз пачне маляваццa, падрыхтавалася я. Але не! З сумачкі яна выняла не памаду, а абрончку і пярсцёнак і надзела гэта на правую руку. Зазіхацела золата. Рука ізноў апусцілася ў сумачку. Жанчына насадзіла вялізны сыгнет на палец мужа. Канец, вырашыла я і ўжо хацела адысці ад акна.

Куды там! Жанчына ізноў надзела на свае пальцы тры пярсцёнкі. Быццам нейкі аўтамат, запускала яна руку ў бяздонную сумачку і выцягвала адтуль усё новыя скарбы. Памагла мужу надзець яшчэ два сыгнеты. Сабе зачапіла бранзалет, тады — ланцужок на шыю. З ланцужком мела клопаты — відаць, зашпіляўся неяк адмыслова. Мацавалася з ім, злавалася, падняўшы ўверх пабліскваючыя золатам рукі. Нарэшце зашпіліла, пагрозліва глянула на мужа. Муж сядзеў, быццам нейкі манекен, побач. Было відаць, што не надта разбіраўся ў такіх каштоўнасцях і няшмат мог жонцы дапамагчы.

Кінула мужу чацвёрты пярсцёнак, а мо гэта была аброчка. Сыну — падала назад залаты ланцужок. Пачала насаджваць на рэшту сваіх пальцаў сімвалы багацця і ўлады. На яе руках ужо не было жывога месца. Яны зіхацелі, як ёлка на Каляды. Прамянела ад шчасця і жанчына, уладальніца гэтых каштоўнасцяў.

А сынок яе ўсё мучыўся на заднім сядзенні з тым няшчасным ланцужком. Што ён не рабіў, ніяк не ўдавалася яму зашпіліць яго. А тут якраз выйшла наша суседка з дваіма дзецьмі гадоў дзесяці-дванаццаці, якіх яны чакалі. Хлопец у самаходзе заўстыдаўся. Выйшаў з ланцужком у жмені, саромячыся перад дзецьмі, сунуў яго маці: „Халера ведае, як яго зачапіць!" Ну, не! Гэтага маці даравацьне магла. Нягледзячы на тое, што людзі ўсаджваліся ў „Мерседэс", яна пачала зашпіляць сыну на шыі гэты няшчасны ланцужок. Удалося! Хлопец вярнуўся ў машыну.

„Мерседэс" як „Мерседэс" — плаўна рушыў з месца і ад'ехаў у невядомае. Куды яны ехалі? На нейкае вяселле? Паказацца пасля вяртання кагосьці з іх з працы ў Амерыцы? А мо проста на вёску — наведаць былых сапляменнікаў... Што гэта была за нагода, што мусілі яны начапіць на сябе столькі біжутэрыі, ды большасць яе, здалося мне, у першы раз...

Гэтыя пытанні віравалі ў маёй галаве, прыглушаючы пагарду да самой сябе за тое падгляданне, на якое наогул часу я не маю...

* * *

І так памаленьку я перастаю любіць прыгажосць.

А, зрэшты, кожны хацеў бы паказаць тое, што лічыць за найважнейшае. Асабліва — калі паказваць больш нічога не мае.

**Ада Чачуга**

# СЁЛЕТА СВІСЛАЧ ЗАКВІТНЕЛА...

*Працяг са стар. 4*

газінах прадаюць цяпер усё — ад штучных кветак па мэблю, кніжак усё менш, апрача розных „Ізаўраў", „Марыяў", „Санта—Барбараў", і то за вялікія грошы. Народ купляе. На менскай вуліцы, думаю, штосьці мяне даўно не абражалі ні нейкія падросткі, ні прадаўшчыцы ў замызганых фартухах, ні размаляваныя касіркі, а таксіст, што раней вярашчаў мне: „Я националистов не вожу!", маланкава выскаквае са свайго седала і мала рук мне не ліжа, каб толькі даць яму зарабіць і зрабіць ласку сесці ў яго машыну. А павёз бы цяпер пасажыра нават у беларускае пекла...

Іду і думаю, шукаю ценю пад абсыпаючыміся з фарбы сценамі дамоў новай, чатырохгадовай Беларусі, пра нашчадкаў тых, каму сніліся сны аб Беларусі і прышэльцаў, што з агідай і пагардай адносяцца да гаспадароў, як раздражняе іх беларуская мова, такая цяжкая для іх і непатрэбная. Можа, гэта... зайздрасць? Як жа ацаніць такое, што былы аднакурснік закідае чалавеку, што той бачыць карысць у веданні мовы і карыстанні ёю, хоць бы для моды і кар'еры (якраз Алег Мацiевiч пра гэта ніколі не дбаў). Відна, гэта добра для мовы і для Беларусі, і гэта знак нармальнасці. Хай толькі абсалютныя прыдуркі і людзі, якім Бог розуму настолькі не даў, каб вывучылі мову, яе не ведаюць!

Беларушчыну трактуюць хто як няшкоднае вар'яцтва, хто можа марыць успомніць 1937 год, хто знюхаў у ёй кан'юнктуру. Чым яна будзе? Калісьці за роднае слова расстрэльвалі хоць бы мастакоў, якія не ў слове ствараюць, а вобразам выказваюцца, а ў вобраза і колеру, здаецца, нацыянальнасці няма. Але дух жыў і жыве!

**Міра Лукша**

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ (6)

## Асаблівасці тапанімii, гісторыя

**Вейкі** — лічацца ў дакументах ад 1623, 1750 і 1784 гадоў; назва радавая ад асабовай *Вейка*. Для параўнання: у літоўцаў ёсць імя *Вея, Веюнас*; у старарускай мове выступае *Вея (Вевея)* і у беларускай — *вейка*.

Вёска размяшчаецца на вялікай паляне сярод лясоў, у 10—12 кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Гарадка. Па дарозе з гэтага мястэчка ў Вейкі з левага боку цягнуцца ўзгоркі, а з правага — лугі і багны. Жывуць тут такія старыя вейкаўскія роды, як: Азябла, Вайцяшук, Варона, Гайдучэня, Грыка, Казёл, Касацкі, Нос, Русак, Салавей, Хрэн, Ціванюк. Тут жылі іх продкі яшчэ ў XVI стагоддзі. У той час „Устава на валокі", дадзена вялікім князем літоўскім і каралём польскім Зыгмунтам Аўгустам у 1557 годзе, прымусіла іх „сцягнуцца" з хутароў у цесную вёсачку паабапал старадаўняга гасцінца, а іх палі былі зведзены землямерамі ў тры палеткі ды падзелены на валокі-ўчасткі.

Захаваліся з тых далёкіх часоў назвы вейкаўскіх палеткаў: Борэлёў Груд, Два Загоны, Гірэлкі, Гаёвыя, Глінковыя, Крайні Дадаткі, Кудзеркі, Кутавыя, Лаза, Ліпнікі, Лугавыя, Магілковы Палоскі, Млінковыя, Нандаткі, Навасёльскі, Навікішкі, Палонь, Сярэдні, Скрабкі, Сухі Лужок і Хрэноўшчына. Некаторыя лугі і сенажаці маюць назвы: Балекаўшчына, Балоцечко, Безухавэ, Берозоў Груд, Лозы і Зыбно, а пашы, між іншым, Багон і Кут. Ужывалася назва месцаў, напрыклад, Карчма ды возера Вейкі. Калісьці карчма стаяла ў вёсцы. Другая знаходзілася на скрыжаванні шляхоў з Ялоўкі ў Вейкі ды з Ялоўкі ў Падазераны. Першымі пасяленцамі былі прыбыўшыя сюды жыхары са Свіслацкай акругі.

Згаданы гасцінец быў адгалінаваннем Вялікага шляху, які ішоў з Вялікага княства Літоўскага ў Каралеўства Польскае цераз Гродна, Крынкі, Гарадок, Ялоўку, Нарву, Бельск. Праз нейкі час, але не пазней чымсьці ў XVI стагоддзі, быў пракладзены новы каралеўскі шлях з Гродна цераз Саколку, Кнышын, Тыкоцін, Бранск і далей у напрамку Варшавы. Але і потым дарога гэтая, хоць ужо мела мясцовы характар, была рухлівая, бо спалучала гаспадарчыя цэнтры: Супрасль, Васількаў, Беласток, Крынкі, Гарадок, Свіслач, Ваўкавыск і іншыя.

Вейкі былі „гаспадарскай" уласнасцю, гэта значыць належалі да вялікага князя літоўскага. З дакументаў вядома, што вёска ўваходзіла ў 1623 годзе ў склад тадышняга Ялоўскага староства. Таму і вейкаўскі сенакос знаходзіцца не на суседняй шырокай даліне ракі Супраслі (яна належала з канца XV стагоддзя магнатам Хадкевічам), але аж на левым беразе ракі Нарвы, паміж Будамі і Боўтрыкамі, г. зн. на абшары былой Ялоўскай воласці.

Ужо ў XVII стагоддзі пра Ялоўскае староства вядома, што яно належыць да прыватных уладальнікаў, а з XIX стагоддзя даходзяць паданні, што Вейкі былі паншчыннай вёскай і „хадзілі рабіць да двара ў Мастаўлянах". Да таго самага двара, у якім нарадзіўся беларускі нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі.

Варта адзначыць, што гэтыя ваколіцы маюць даволі багатае прамысловае мінулае. Яно датычыць не толькі Млінковай гары за сялом, дзе некалі, мабыць, стаяў вятрак, і канала на „балоце", які завецца Тартачны роў, бо там, відаць, знаходзіўся тартак, але тэкстыльнай фабрыкі, што была ў сённяшнім урочышчы Рабінаўка. Выраблялі ў ёй сукно розных гатункаў і ў значнай колькасці яно трапляла нават на далёкія сібірскія і кітайскія рынкі. Якраз Рабінаўка і была падпораю для ўсяго навакольнага насельніцтва. Фабрыка ў Рабінаўцы працавала недзе да 1926 года. Потым, не вытрымаўшы канкурэнцыі, уладальнік прадаў яе, а купцы вывезлі не толькі машыны, але разабралі і цагляныя сцены. Цяпер на гэтым месцы час ад часу скрыгане аб плуг кавалак цэглы, і старэйшыя людзі прыгадваюць, як то калісьці „рабілі ў Брыля", бо апошні ўладальнік ці арандатар фабрыкі так называўся.

Вялікую ахвяру ўнеслі Вейкі ў змаганне супраць нямецкага фашызму. На розных франтах загінулі Уладзімір Азябла, Іван Гайдучэня, Іван Касацкі, Канстанцін Ціванюк, Міхал Шуляк і іншыя. У тутэйшых ваколіцах дзейнічалі партызанскія атрады. Адзін з іх, які ўзначальваў савецкі афіцэр з мянушкай Максім, меў сваю базу ва ўрочышчы Азярына ў вейкаўскім лесе. Вёска дапамагала партызанам харчамі і адзежай.

Солтыса Фёдара Лешчука за тое, што не паведаміў пра адну з пабывак партызанаў у сяле, а Адама Варону і Іосіфа Хрэна за супрацоўніцтва з партызанамі немцы вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер, і яны там памерлі. Сямёна Гайдучэню фашысты расстралялі за тое, што ён дазволіў партызанам пераначаваць у сваёй хаце і не данёс пра гэта. Але гэта не скарыла, не запалохала вейкаўцаў. У іх партызаны заўсёды знаходзілі дапамогу.

Сёння Вейкі — гаспадарлівая вёска. Хоць зямля тут слабая, але сяляне ўхітраюцца вырошчваць добрыя ўраджаі збожжа і бульбы, гадуюць многа малочных кароў.

Каля вёскі захаваўся саматужны драўляны вятрак-пальтрак з 1946 года, след адышоўшай назаўсёды эпохі ў жыцці і працы народа.

**Вераб'і** — радавая назва ад асабовай *Верабей*. Жылі тут ваўпянскія баяры Вараб'і. Сяло Вараб'і ўпамінаецца ў дакументах ад 1558, 1567 і 1784 гадоў. Сёння таксама пражываюць у ёй прадстаўнікі невялікага шляхецкага роду Врублеўскіх.

Вёска знаходзіцца на ўскраіне Кнышынскай пушчы (плошчай у 900 квадратных кіламетраў), па шашы з Беластока ў Бабро ўнікі. Каля агародаў тут сочыцца ручай Вярбсл, што крыху далей на ўсход упадае ў рэчку Каладзежную — левы прыток ракі Свіслачы.

Баяры Вераб'і на вялікакняжацкай службе выконвалі адказныя абавязкі: ахоўвалі багатую зверам, борцямі і драўнінай пушчу, сцераглі спакой на Вялікай Дарозе з Гродна цераз Крынкі, Нарву на Падляшша і далей на Валынь і ў Польшчу, удзельнічалі ў паляваннях і ў ваенных паходах. За чатырыста гадоў тут перамянілася ўсяго тое, што колішнія баяры Вераб'і недзе ў XVII стагоддзі сталі шляхтай Врублеўскімі і гэтае прозвішча складае аснову цяперашніх насельнікаў гэтай мясцовасці. У розныя часы далучаліся да іх: Бяляўскія, Вільчынскія, Галашэўскія, Глябовічы, Гутоўскія, Дрангоўскія, Залеўскія, Зарэцкія, Ігнатовічы, Карвелі, Купрыяновічы, Нятупскія, Шышкі, Шыдлоўскія, Шчасновічы, Эйсманты і іншыя.

Вераб'ёўцы прынялі ўдзел у паўстанні 1863 года. Паўстанцкі атрад стаяў на гары Камянец у Ліпніцкім лесе. Тайком насілі туды харчы, ваду. Актыўны быў удзел Бяляўскіх і яшчэ некалькі вераб'ёўцаў.

Тут у канцы чэрвеня 1941 года савецкія войскі бязлітасна ўпарта змагаліся з наступаючымі гітлераўскімі войскамі. Падчас II сусветнай вайны вёска Вераб'і была спацыфікавана фашыстамі.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, сніцца мне такое. Я і мой дырэктар едзем, не памятаю добра, ці самаходам, ці веласіпедам. І выехалі на вельмі прыгожы снег. Было яго вельмі многа. Нейкія раскопкі пад гэтым снегам. Мы там ходзім і выйшлі з тых равоў.

Потым я з усёй сям'ёй у Амерыцы. Паехалі да дачкі. Клопат, дзе будзем жыць. Вуліца ці плошча вялікая, будынкі з вежамі. Сталі мы пры плоце і чакаем гаспадароў. Прыйшлі мужчына і жанчына, а пазней другая. Мне цяжка з імі гаварыць, мовы не ведаю. Потым мужчына знік — пайшоў да гаспадароў. Увайшлі мы як бы ў хлеў, а там нейкія клункі, салома. Я лёг на саломе, быццам адпачываю. Потым выйшаў адтуль, бачу, жанчыны разыходзяцца. Гляджу ў вакно. Бачу, іграе аркестр на гармоніку, гітары, спяваюць. Я ўцешыўся, што гэта польскія салдаты. Але гэта нас не датычыла.

**Мірон**

Мірон! Нешта табе шыкавала на добрае, можа меў быць нават нейкі прыбытак. Глядзі сам: снег — ён быў вельмі прыгожы. А пасля была Амерыка, а падарожжа за мяжу сніць — таксама добра, абазначала б перамену на лепшае. Ды толькі вось за граніцай тою давялося табе нялёгка. Хлеў, салома, а на дадатак — салдаты. Салдаты прадвяшчаюць хваляванні і непрыемнасці. Пэўна, нешта не выйдзе з тваіх планаў.

**АСТРОН**

## З гараскопа друідаў

**КАШТАН** *(15—24 мая, 12—21 лістапада).* Для людзей, якія нарадзіліся ў гэтыя дні, друіды выбралі адпаведнікам высокае дрэва, што давала плады; іх можна было есці сырымі або печанымі. Гэта каштан, але не той, што расце ў нас (конскі).

У арэхах-пладах каштана шмат вітамінаў, высакаякасных бялкоў, алею, цукру, крухмалу. Прыстойны і прыгожы каштан не стараецца ўракаць, мае прыроднае пачуццё справядлівасці, але на кожную крыўду рэагуе гвалтоўна, не звяртаючы ўвагі на магчымыя вынікі. Неахвотна выкарыстоўвае дыпламатычныя манеўры, а таму часта адштурхоўвае ад сябе людзей. Каштан перажывае звычайна шмат расчараванняў, якія памятае доўга, бо вельмі ўражлівы, але не бывае ўпартым, наадварот, ён разважны, прадбачлівы, што і засцерагае яго ад матэрыяльных клопатаў. Такія людзі больш увагі надаюць маральным і этычным правілам і, хаця самі чуллівыя, могуць стаць пурытанамі. Каштан патрабуе шмат любові, але сам па-сапраўднаму можа кахаць толькі адзін раз, і таму так цяжка яму знайсці шчасце. Прага пачуцця і адначасная боязь, што ён можа быць некаханым, ускладняюць адносіны такіх людзей са сваімі партнёрамі. Такі комплекс можа даць нават нечаканы выбух незычлівасці. Жыццё каштана цалкам залежыць ад блізкіх, і калі яго прымаюць і разумеюць, ён добра развіваецца.

*(працяг у наступным нумары)*




## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

**(11)**

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33—36, 38—41 н-рах)*

Надзеі Руско з Белавежы ўспомніліся чарговыя прыпеўкі.

**31**

А ў агародзі канапелькі,
все зілёненькі,
самы не рвуцца
і мне не даюцца.

**32**

Гартай, гартай бульбу з пэчы.
Бары в торбу і на плечы.
Бо такіе нашы долі,
як палын горкі у полі.

**33**

Ні аддавай мане, маці, замуж,
коб я была такою,
з вілами на поле хадзіла да гною.
А аддай мане, маці,
коб я была такою,
і ано хадзіла з кухні да пакою.

**34**

Ганна, Ганенько, ні хадзі брудненько.
А хадзі чысьценько, мае сэрдэнько.

**35**

Маці волі не давала,
за нілюбага аддавала.
Вана мне прыказала,
коб я яго шанавала.
А я яго шаную,
як сабаку рудую.
Да прыпачка прывазала,
стой, стой сукінсыну,
пакі найду хварасціну.
Хварасціну найшла і усердзілася.
Я над сваім рудаватым
зміласердзілаcа.

**Запісаў ПЁТР БАЙКО**

## ЛЕГЕНДЫ НАДБУЖАНСКАЙ ЗЯМЛІ

* * *

Бужск завуць — ад Буга, Холм — ад халма (узгорак), Нарву — ад ракі Нарвы, а Нур? Нур, відаць, ад нуроў. А што гэта за такое нуры тыя?

Старыя баюць, што даўным-даўно паміж рэкамі Бугам і Нарвай жыло нейкае племя. Надта дужа любіла яно сваe родныя мясціны. Калі прыходзілі да злыя ворагі-наезнікі, каб грабіць і браць у няволю, яно патрапіла абараніцца. Калі ворагаў было няшмат, тады нуры біліся з імі і перамагалі. Як наезнікаў была процьма, у такім выпадку ўсе беглі да найбліжэйшай глыбокай вады або да непраходнага балота, бралі ў вусны кавалак трасціны без каленка, заціскалі пальцамі нос, заплюшчвалі вочы і апускаліся пад ваду або балотную твань. Сядзелі ў вадзе ці ў багне датуль, пакуль мінала небяспека. За гэта і празвалі суседзі іх нурамі, а зямлю іх нурскай.

Найцяжэй жа было нурам зімой, бо калі стаялі маразы як жа лезці ў ваду або балотнае жарало. Пад націскам іншых плямёнаў, а перш за ўсё злых стэпавых народаў, пакінулі яны свой край. Ворагі разгадалі таямніцу нуроў і забівалі іх, нават схаваных пад вадою. Так і выгінулі нуры. Пасля сябе пакінулі толькі назвы рэк і ўрочышчаў. Ёсць мясцовасць Нур, ёсць рэчкі Нурэц і Нурчык.

* * *

У гісторыю Драгічына асабліва ўпісаўся яго буйны росквіт у XV і XVI стагоддзях. Горад знаходзіўся якраз на скрыжаванні важных гандлёвых шляхоў ды яшчэ тут была пераправа цераз Буг. Працвітаў ён асабліва за панавання вялікага князя Вітаўта, які часта тут знаходзіўся. Драгічын лічыўся тады адным з найбольшых і найбагацейшых літоўскіх гарадоў. Папраўдзе, уступаў ён толькі велікапышнасці такіх гарадоў, як Вільня і Брэст.

Легенды гавораць, што вялікі князь вельмі ўзлюбіў якраз Драгічын і перад смерцю загадаў яго спаліць, каб не пакінуць іншым.

* * *

Калісьці на ўскраіне Мельніцкай пушчы, а цяпер зараз жа за Мельнікам, сярод пагоркаў марэннай грады, што пакінуў ледавік, узвышаецца славутая гара Ушэсця. Яна — неад'емная частка гісторыі старажытнай мясціны.

Легенда кажа, што іменна тут, на самай вяршыні (204 метры над узроўнем мора) знаходзіўся язычаскі храм, а потым першая ў гэтых ваколіцах царква. Яна з невядомых прычын правалілася пад зямлю. Але калі ў свята прыкласці вуха да гары, быццам чуваць голас званоў.

Сабраў і апрацаваў **ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

### Беларусы за стырном параходаў

Флот Аструдска-эльблангскага суднаходства перавёз у мінулым сезоне больш за 24 тыс. пасажыраў. Параходы курсуюць да канца верасня, а ад кастрычніка пачынаюцца рамонты суднаў, каб паправіць камфорт пасажырам. Ад мая да канца жніўня 7 аструдскіх параходаў выходзілі ў рэйс 400 разоў. Пяць найбольшых суднаў могуць забіраць па 65 пасажыраў, сярэдняе — 36, а найменшае — 12. Суднаходства звольніла ўсіх сваіх матросаў, якія п'янствавалі. З новага сезона плануецца прыняць новых, у тым ліку і крыху беларусаў, якія маюць міжнародныя правы рачнога суднаходства.

**Андрэй Гаўрылюк**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. стары мужчына, 8. амерыканскі абаліцыяніст, 9. адміністрацыйнае падраздзяленне дзяржаўнай тэрыторыі, 10. плод ляшчыны, 11. канцэнтраваны раствор цукру, 13. непрыемнасць у роце, 15. пацёртае сена, 16. так завуць невялікую жанчыну, 20. Тадэуш, польскі пісьменнік і кінарэжысёр, 22. маёмасць, уласнасць, 23. рака ў Афрыцы, 27. невялікая хуткая птушка, 29. сталіца Малі, 30. войска, 31. пасяджэнне калектыву, 32. сялянская гаспадарчая пабудова, 33. край, мяжа, 34. першы чалавек.

**Вертыкальна:** 1. шлях нябеснага цела, 2. наш кантынент, 4. малое зерне, 5. горад у Баварыі, дзе ў 1933—45 г.г. знаходзіўся канцлагер, 6. горад на поўначы Чылі, 7. від стэпавых яшчарыц, 12. схватка двух праціўнікаў, 14. прытулак, месца недаступнае іншым, 16. заступніца навук і мастацтваў, 17. правінцыя і горад у Іспаніі, 18. беларускі бел-чырвона-белы, 19. міжземнаморская выспа, 21. штат у ЗША, 24. рака ў Палессіне, 25. біблейны прарок-цудатворац, спадарожнік прарока Ілы, 26. рака і мястэчка на Беласточчыне, 27. вялікі манастыр, 28. хвойнае дрэва.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 33 н-ра:** палена, галава, агарод, Ладога, лапата, карыта, афіцэр, мосцік, малако, лянота, коннік, кімано.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Пётр Байко** з Белавежы і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

### МІНІ-ДАВЕДНІК

**Браўн** — барацьбіт за вызваленне неграў у ЗША (1800—59).




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраноўіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.



# Я КРОПКА

*Я ў абсалюце толькі кропка,*
*але не грош.*
*. . . . . . . . . . .*
*Я толькі кропка, а не ёлка*
*пад Новы год.*

*АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ*

За мяне нічога ты не купіш,
бо я толькі кропка, а не грош.
Добра, як ты толькі час загубіш,
ну а можа быць яшчэ і горш.

Не цягні пад Новы год дахаты,
бо не ёлка я і ёй не быў.
Праўда, цацак тут на мне багата —
я для рок-тусоўкі іх набыў.

Я не коска ў вершы пра каханне,
не шматкроп'е! Кропка я павек!
Можа й ты таксама кропкай станеш?
Кропка лепш, чым проста чалавек!

**ВІНЦУК АСЦЮК**

# СЕНТЭНЦЫІ

Камень — гэта калекцыя крышталяў, у якіх палоніцца колер часу.

* * *

Акно дзеля таго, каб свет мог аглядаць раздзетага чалавека.

* * *

Убачыўшы залёты сонца, нявінная зямля зарумянілася зеленню.

* * *

У хваста свая перавага — за яго думае галава.

**Барыс Руско**

# ЗА БУТЭЛЬКУ

У Лёнькі Бульбачкі пасля ўчарашняга не засталося нават рубля.

Увесь дзень толькі і думаў Лёнька пра пахмелку. Хацеў ужо паехаць да кума ў госці, ды не знайшоў веласіпеда ў хляве. „Пэўна, зноў у сябра забыўся", — падумаў ён. Бачыць: ідзе ў хату Міхась — ягоны напарнік, бутэльку на стол ставіць.

Выпілі сябры па шклянцы.

— За што, Міхась, п'ём? — пытаецца Лёнька.

— Ды за твой веласіпед, — адказаў сябра. — Ты што, забыўся, што ўчора памянялі яго на бутэльку спірту „Раял"?

**Людміла Маршаловіч**





— *Калісьці я таксама пачынаў з кветак.* **Мал. В. Ключніка**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Жыло сужонства, якіх шмат у свеце. Муж час ад часу добра выпіў, а жонка, вядома, лаяла яго за гэта. Сама была гаспадыня нядрэнная, ашчадная.

Аднойчы зняндужала і паклалі яе ў бальніцу. У сярэдзіне тыдня прыехалі яе наведаць суседкі і сказалі:

— Невядома, ці твой Сцяпан прыедзе да цябе ў нядзелю.

— Чаму? — здзівілася Галя.

— А вось, чаму: толькі цябе ўзялі ў шпіталь, ён наладзіў у сябе п'янку. Пілі, пілі, аж урэшце госці дайшлі да высваду, што гаспадар паставіў замала гарэлкі. То і пабілі яго. Цяпер саромецца нават паказацца на вуліцы!

Прыйшла нядзеля, якраз 1 мая. Галя не чакала мужа, але ён прыехаў, з тварам у сіняках. Паглядзела на яго Галя і сказала:

— Заслужаныя людзі хадзілі ў гэты дзень з медалямі, а ты на памятку мінулых гадоў хвалішся сваімі сінімі пячаткамі?!

* * *

— Любіш збіраць грыбы? — пытаюцца малога Міколку.

— Ага, у супе, — прызнаецца хлопчык.

* * *

Аднойчы Іван убачыў, што суседаў сын крадзе на яго полі трускалкі. Падышоў паціху і схапіў рабаўніка за каўнер.

Нічым не збянтэжаны Андрэй спытаўся разлаванага дзядзьку:

— Вы... верыце ў Бога?

— Ну, вядома!

— Тады пусціце мяне. Ён узнагародзіць вам добры ўчынак. Хрыстос жа сказаў: галоднага накарміце...

* * *

— Чаго ты мне свет завязаў?! Чаму ты раней яе не ўзяў? — наракае жонка на мужа, які адыходзіць да суседкі, пакідаючы жонку і двое дзетак.

— Тады, як цябе браў, яна мне не падабалася. А ты спадабайся іншаму.

**Аўрора**

## ПАДЦЁК СВЯДОМАСЦІ

Пад'есці любіць тлуста
Пясняр забытых вёсак,
Паэзіі падкумак,
І вершы піша густа
Без кропак і без косак,
А найчасцей —
Без думак.

**Рыгор Барадулін**

## РАСТЛУМАЧАЛЬНІК

**Маршчыны** — сетачка, у якую намагаюцца злавіць думку.

**Рэха** — гэта тое, што засталося, калі ўжо нічога няма.

**Дабрабыт** — вынік няўмельства цешыцца бядою.

**Вазон** — квяцісты астравок, на якім часта не хапае вады.

**Зоркі** — вяснушкі на твары неба.

**Адам Сяменчык**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

Прыходзіць лысы да цырульніка.

— Чым магу вам служыць? — пытае здзіўлены цырульнік.

— Зрабіце, калі ласка, паліроўку.

* * *

— Пагляньце, як гэтыя старэйшыя мужчыны на сябе падобныя.

— Можа гэта блізнюкі?

— Што вы! У гэтым узросце?!

* * *

— Мая дачка штораз больш падобная на мяне, — хваліцца маці.

— І сапраўды нельга гэтага прадухіліць? — пытае сяброўка.

* * *

Пажарнікі ў адной вёсцы захацелі заснаваць свой аркестр. Капельмайстар праводзіць набор у калектыў.

— Хто ведае, чым розніцца фартэпіяна ад скрыпкі?

— Фартэпіяна даўжэй гарыць, — адказвае адзін з пажарнікаў.

* * *

— Ужо шэсць гадзін прыглядаецеся як я лаўлю рыбу; бярыце вось гэтую вудачку і прабуйце самі, — гаворыць вудзільшчык да свайго балельшчыка.

— Ой, даражэнькі, я да гэтага занятку не маю цярплівасці.

* * *

Сустрэліся прэзідэнты Буш і Ельцын:

— У нас рабочы зарабляе 1 000 долараў у месяц, з чаго на жыццё выдае 500, — гаворыць Буш.

— А што ён робіць з рэштай?

— Улада гэтым не цікавіцца.

— А ў нас рабочы зарабляе 10 000 рублёў, а на жыццё выдае 20 000 рублёў.

— А адкуль ён бярэ рэшту? — пацікавіўся Буш.

— Улада гэтым не цікавіцца, — адказаў Ельцын.

* * *

2005 год. На экране тэлевізара паяўляецца ўзрадаваны дыктар і заяўляе:

— А цяпер, шаноўныя гледачы, на гадзіну перарываем перадачу рэкламаў, каб паказаць фільм.

* * *

Суддзя да абвінавачанага:

— Скажыце, што вы рабілі ноччу з 30 на 31 сакавіка?

— Быў я тады ў паліцыі на допыце, што рабіў ноччу з 16 на 17 сакавіка.

* * *

Змучаны вандроўнік паўзе праз пустыню. Амаль абяссілены ўбачыў калодзеж і ўсклікнуў:

— Вада! Вада!

З-за калодзежа высоўваецца худая постаць і з надзеяй у голасе пытае:

— Дзе? Дзе?

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**



Мілае Сэрцайка! Хачу табе апісаць адно здарэнне і запытацца, што ты думаеш пра гэта.

Гадоў дваццаць таму назад я пазнаёмілася з адной жанчынай з пэўных інтэлектуальных кругоў. У першы момант мне нават здалося, што гэта была яшчэ паненка — невысокая, шчуплая, прыгожая, поўная энергіі. Маладая! Толькі пазней мне сказалі, што ёй ужо за сорак і ёсць у яе трое дзяцей. Была душой кампаніі, а да таго вельмі здольная мастачка — усе пакланяліся ёй. Хапіла, што глянула толькі на мужыка, а ўжо ён быў адданы ёй, як сабака. Магла ў сваіх цудоўных боцiках прайсціся па банкетным стале, не крануўшы нават кілішка, і ніхто не сказаў ні слова. Наадварот, усе глядзелі на яе з захапленнем і чакалі, што яна яшчэ зробіць. Калі ёй не хацелася ісці на нейкую ўрачыстасць, магла прысылаць туды свайго мужа, апранутага ў яе плашч і капялюшык. Усе ўсё ёй даравалі.

Мы многія гады не бачыліся, жылі ж у розных гарадах. І вось нечакана сустрэліся зноў. Я пазнала яе адразу: тыя ж вочы, той жа голас і... больш нічога. Явілася яна перада мной як старэйшая, 65-гадовая жанчына. Папаўнела, пакульгавела, пафарбавала светлым колерам свае сівыя, а калісь чорныя валасы. Мне сказалі, што яе ўнукі ўжо ў ліцэі.

Я падумала: як час ляціць — і ўздыхнула. Нягледзячы на ўсе яе фокусы, я яе вельмі цаніла, падабалася яна мне. Я думала, што вось сядзем, успомнім, як бавіліся калісьці, пагаворым пра дзяцей (пра ўнукаў я нават не падумала пытацца), пра яе цудоўны дом, пра працу. Але ўсё, што напамінала ёй былое, дражніла яе. Была нейкая неспакойная, наракала на каміну. Але найгоршае было тое, што не магла смяяцца: калі ўсміхалася, маршчыны густой сеткай пакрывалі яе твар, на якім засталіся яшчэ сляды колішняй прыгажосці.

Пры ўсім гэтым яна старалася рабіць уражанне, што нічога не змянілася, што яна такая, як была і раней — маладая і статная, і твар у яе гладкі. Пасля вячэры ў рэстаране пачаліся танцы. Ніхто яе не запрашаў, а яна, пакульгваючы, цягнула то аднаго, то другога танцаваць. Адзін устаў з-за стала, калі яна пацягнула яго за рукаў, яна пайшла наперад, а ён павярнуўся да нас ды кажа: „Не ведаеце, чаму я такі дурань?!"

Пасля пайшла ў буфет, прытулялася там да каго папала, мітусілася, старалася гучнай размовай прыцягнуць да сябе ўвагу іншых. Заўсёды любіла быць у цэнтры, як кажуць, на свечніку.

На жаль, усе яе старанні выглядалі жаласна і нікчэмна. Ніхто ўжо гэтым не захапляўся, а нават наадварот.

Мне яна здалася вельмі смешнай. А табе?

Агата

Агата, твая знаёмая прывыкла быць на свечніку, ды толькі свечкі згаслі. Многія асобы, асабліва з артыстычнага свету, не ўмеюць з годнасцю прыняць старасць, якая нясе з сабою і хваробы, і маршчыны. Добра было б прытуляцца да таго, хто б гэтага хацеў, але... калі нехта сябе лічыць дурнем, бо ідзе з ёй танцаваць... Трэба ўмець выважыць усе „за" і „супроць", а мо лепш было б заняцца іншымі справамі ў „залатым" узросце. Асабліва, калі ёсць унукі.

Кожны будзе стары, калі Бог дасць дажыць яму да старасці. Ды толькі не кожны ўмее выйсці з гэтай сітуацыі з гонарам. Так, як твая знаёмая.

**СЭРЦАЙКА**